PL ISSN 0546 - 1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 18-19 (1877-1878) ГОД XXXVII БЕЛАСТОК 3-10 МАЯ 1992 г. ЦАНА 1500 зл.

## ШАНОЎНЫЯ ЧЫТАЧЫ!

Гэты нумар «Нівы», як Вы адразу заўважылі, сваім вонкавым выглядам адрозніваецца ад папярэдніх. Іншы характар шрыфту, кампазіцыі загалоўкаў і палосак ды яшчэ некаторыя змены. Усё гэта выклікана не нашым памкненнем да арыгінальнасці, а тэхнічнымі ўмовамі падрыхтоўкі тыднёвіка пасля таго, як Прэзідыум ГП БГКТ забраў з памяшкання рэдакцыі камп'ютэрнае абсталяванне. Нумар давялося набіраць і рыхтаваць у друк на іншым абсталяванні, якое надзелена адрознымі ад папярэдняга тэхнічнымі магчымасцямі і характарыстыкамі. Рэдакцыйны калектыў практычна на працягу некалькіх дзён асвоіў «новую тэхніку» - гэта дае заруку, што «Ніва» зноў будзе выходзіць беcперапынна, нягледзячы на тое, як вырашыцца далейшы лёс забранага камп'ютэрнага абсталявання. Давялося папрацаваць і ў суботу, і ў другі дзень Велікодных святаў - але тут ужо нічога не зробіш, калі бяда прыціснула. З увагі на яе мы не паспелі падрыхтаваць газеты своечасова, таму гэты выпуск мае падвойную нумарацыю.

Адны кідаюць калоды пад ногі, іншыя пасабляюць іх абмінуць. Рэдакцыя выказвае падзяку рэдактару «Часопіса» Юрку Хмялеўскаму за ахвярную дапамогу ў падрыхтоўцы гэтага нумара «Нівы» да друку ды дзякуе таксама Беларускаму аб'яднанню студэнтаў і Беларускаму дэмакратычнаму аб'яднанню за магчымасць бясплатнага карыстання іхнімі камп'ютэрамі.

РЭДАКЦЫЯ



*Чым далей, тым лес гусцей...*

## IX АПОШНЯЯ СТЫЧКА

**23 красавіка 1992 года, а гадзіне 10.50, «Ніва» развіталася са сталіншчынай. Рэдакцыйны гурт ветліва папрасіў бэгэкатоўскага наміната на пасаду галоўнага рэдактара Янку Целушэцкага не перашкаджаць у працы - пакінуць сядзібу рэдакцыі і больш у яе не вяртацца. Такім чынам «прэсавы орган» парваў ці не апошнюю нітку залежнасці ад свайго «палітбюро» на вул. Варшаўскай 11.**

### ДЭСАНТ З ВАРШАЎСКАЙ

У панядзелак 13 красавіка, а трэцяй гадзіне пасля абеду, калі большасць працаўнікоў рэдакцыі «Нівы» адсутнічала, сядзібу тыднёвіка на вул. Сураскай 1 з наскоку ўзяла дзяяцкая эліта Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў асобах: намеснік старшыні Галоўнага праўлення Таварыства Янка Сычэўскі, сакратар ГП Валянціна Ласкевіч ды члены Рэвізійнай камісіі Міхась Хмялеўскі і Павел Лемеш са сваім старшынёю д-рам Уладзімірам Юзвюком. Удар быў нанесены на камп'ютэрнае абсталяванне, на якім рабіўся набор газеты. Тэхнічным кансультантам у праведзенай акцыі аказаўся Яўген Чэрнякевіч, а фізічную падмогу яшчэ ахвяраваў кволы пенсіянер Янка Целушэцкі. Майстэрства ўсяе акцыі рэдакцыя аценіла, на жаль, толькі ў аўторак. Камп'ютэры, якія займалі два ніўскія пакоі, памясціліся ў сакратарыяце ГП БГКТ - праходным памяшканні, дзе афармляюцца ўсе справы Таварыства. Адзін камп'ютэр стаяў звычайна пад нагамі.

### ПЕРШАЯ ЛАСТАЎКА РЭФОРМАЎ

«Мы проста мусілі пастyпіць так, а не інакш - між іншым і дзеля таго, каб такім спосабам спрабаваць наладзіць атмасферу сярод гэтай групкі працаўнікоў», - сказала спадарыня Ласкевіч /"Пад знакам Пагоні", 21.04.92, гадз. 8.50/, якое мы /М.В. і А.М./, дарэчы, ніколі ў рэдакцыі не бачылі. Працаўнікоў «Нівы», паводле кіраўніцтва БГКТ, тэрарызаваў ейны графічны рэдактар Уладзіслаў Петрук. Ніякай улады гэты чалавек над сабою не прызнаваў, усіх абражаў, лаяў - працаваць з ім станавілася немагчыма. Да таго ж злоўжываў законную ўласнасць БГКТ, набіваючы грошы у сваю кішэню «левымі заказамі». Нельга было яго пакараць, немагчыма звольніць, адно было толькі выйсце - забраць камп'ютэры на Варшаўскую, пастанавіў на сваім пасяджэнні 22 сакавіка Прэзідыум ГП БГКТ. Гэтак Таварыства пачало наводзіць парадак ў «Ніве». А яны у гэтым майстры /глядзі: ліквідацыя беларускага школьніцтва на Беласточчыне, скасаванне этнаграфічнага музея ў Белавежы і шмат дзеянняў меншага маштабу/!

### ТЫЯ НЯШЧАСНЫЯ КАМП'ЮТЭРЫ...

былі куплены за грошы, якія ўрад Мазавецкага ў 1990 годзе падараваў беларускай меншасці. Адным з найгалоўных пунктаў гэтае інвестыцыі мелася быць арганізацыя выдавецкай базы. Адзіным не аказіянальным беларускім выданнем у Польшчы з'яўляецца тыднёвік «Ніва». Таму якраз камп'ютэрная апаратура апынулася на Сураскай. Дзякуючы гэтаму павысілася тэхнічная якасць газеты, скараціўся час падрыхтоўкі нумара, выдатна панізіўся кошт выдання. Уладзіслаў Петрук ацаніў, што падрыхтаваныя ім 40 «камп'ютэрных» выпускаў «Нівы» заашчадзілі каля 400 мільёнаў злотых дзяржаўнай датацыі. Уся гэта ўрадавая датацыя пайшла ў рукі Беларускага грамадска-культурнага таварыства, якое, такім чынам - фармальны ўладальнік камп'ютэраў.

### У ЧЫМ СПРАВА?

БГКТ не выкарыстала датацыю, каб разгарнуць гаспадарчую дзейнасць. Грошы праеліся штатамі і ўтрыманнем будынкаў. Зараз такая сітуацыя, што аніводнае таварыства ў Польшчы не атрымлівае фінансавай дапамогі з дзяржаўнага бюджэту, акрамя дафінансавання некаторых мерапрыемстваў. У БГКТ з 30 чэрвенем канчаюцца штаты. «Ніва» затое, як газета нацыянальнае меншасці, надалей фінансуецца Міністэрствам культуры і мастацтва. Тактыка кіраўніцтва Таварыства прыблізна такая: забіраючы на Варшаўскую камп'ютэры, пацягнуць за імі і рэдакцыю. Калі б рэдакцыя апынулася ў будынку ГП, чыншзаяго можна было б аплаціць з бюджэту «Нівы». А ў далейшым ГП падумала б пра выкарыстанне журналістаў як дзеячаў Таварыства. Калі б не гэтых, дык іншых.

### У АБЛІЧЧЫ «ПРЫВАБНАЙ» ПЕРСПЕКТЫВЫ...

Рэдакцыйны гурт шукаў дарог выхаду. Рэдакцыя ў гэты час старалася працаваць у двух месцах, аднак, як хутка выявілася, было гэта немагчыма як фізічна, так і псіхічна. Галоўны рэдактар Віталь Луба з усяе моцы шукаў нейкі кампраміс, лічачы рэгулярны выхад «Нівы» справай самай галоўнай.

працяг на стар. 2

## НА МЯЖЫ

## АД ПАЧУЦЦЯ СОРАМУ ДА ПАЧУЦЦЯ ГОНАРУ

### РЭЛІГІЙНЫЯ ДЫЛЕМЫ
### Частка XIV

Многія ставяць закід, прыпісваючы мне імкненне да стварэння беларускай клерыкальнай дзяржавы. Закід такі зусім беспадстаўны. Я ўпэўнены, што беларускае нацыянальнае духавенства не пойдзе следам за тымі веравызнаннямі, якія ў некаторых, не толькі ісламскіх, але і еўрапейскіх краінах імкнуцца да таго, каб мець усебаковы ўплыў на дзяржаўнае і ўсеграмадскае жыццё. На маю думку, Праваслаўная Царква, якая астанецца на Беларусі вядучай, а таксама іншыя веравызнанні не будуць умешвацца ў дзяржаўныя справы і не будуць імкнуцца да стварэння рэлігійнага таталітарызму ці фундаменталізму. Веру ў гарманійнае сужыццё ўсіх рэлігій на Беларусі, з аднаго боку, і беларускай дзяржавы, з другога боку.

Калісьці высокі чыноўнік Міністэрства ўнутраных спраў, якому падлягала Беларускае таварыства, выказаў перада мною вельмі цікавае, хаця не ведаю ці праўдзівае, меркаванне. Вось яго змест: „Wasze duchowieństwo w przeciwieństwie do naszego nie jest polityczne i jest biedne w stosunku do naszego duchowieństwa. Gdy prawosławny biskup przyjeżdża do Siemiatycz, Hajnówki, Bielska czy Sokółki, to on wizytę w tych powiatach rozpoczyna od wizyty u kierownika powiatowego urzędu do spraw wyznań i później kieruje się do swych parafii. Natomiast nigdy nie zdarzyło się, aby katolicki biskup w tych miejscowościach zajrzał do urzędu wyznań, on jedzie odrazu do ktorejś z parafii. Jeżeli kierownik urzędu do spraw wyznań chce się spotkać z biskupem katolickim, to musi się za nim porządnie nabiegać. Nie jest wcale powiedziane, że biskup go przyjmie.

Не ведаю, ці яно сапраўды так было. Аднак, здаецца мне, што пэўныя сімптомы праўды ў гэтым выказванні былі. Зразумела, што сказанае адносіцца да мінулага. Вядома, што сёння каталіцкі касцёл поўнасцю атаясамліваецца з дзяржавай і, напэўна, яго прадстаўнікі не маюць нічога супраць таго, каб спаткацца з прадстаўнікамі адміністрацыі, хаця не ведаю, хто першы да каго ходзіць.

Думаю, што праваслаўнаму духавенству на Беларусі не будзе цяжка супрацоўнічаць з незалежнай беларускай дзяржавай. І не думаю, што гэтага не захочуць і прадстаўнікі іншых веравызнанняў.

Я перакананы, што беларускае заканадаўства адназначна акрэсліць палітычную нейтральнасць усіх веравызнанняў і што яны абмяжуюць сваю дзейнасць толькі маральнымі і этычнымі праблемамі. А вядома, што нявырашаных пытанняў у гэтай сферы вельмі многа. Некаторыя з іх маюць розны характар. Назаву тут толькі некаторыя: алкагалізм, наркаманія, хваробы, убоства, слабасць сям'і, зладзейства, крывадушнасць, мана, адным словам, тое, што знаходзіцца ў дзесяці запаведзях і па-за імі. Зразумела, што царква, касцёл і бажніца не могуць узяць усіх гэтых цяжараў на свае плечы, аднак павінны супрацоўнічаць з дзяржавай у іх прынамсі частковым вырашэнні. Аб поўнай ліквідацыі зла не можа быць гутаркі. Вядома, што сёння яго на свеце не меней, чым дзве тысячы гадоў таму назад, калі нарадзілася на нашай зямлі хрысціянства. З гэтага вынікае, што хрысціянства не знайшло ў сабе ані адпаведнай сілы, ані ўмення для перамогі над злом. Аднак, з гэтай прычыны не можам абвінавачваць хрысціянства, бо, праўдападобна, калі б яго не было, дык праявы злога былі б намнога болей масавыя і агрэсіўныя. Мне асабіста здаецца, што ўсё яшчэ хрысціянскі прынцып пакарання грэшнікаў пасля іх смерці ў значнай ступені дзейнічае і паўстрымлівае многіх ад злых учынкаў на зямлі.

Так ці інакш, канчатковыя мэты хрысціянскіх веравызнанняў і дэмакратычных арганізацый па сутнасці вельмі падобныя. Як адны, так і другія імкнуцца да выхавання правага, добрасумленнага, працавітага, альтруістычнага, лаяльнага, справядлівага, патрыятычнага чалавека. Без грамадства, якое складалася б з такіх чалавечых постацей, не можа быць нармальнай дзяржавы і нармальнай рэлігійнасці. У сувязі з гэтым ускладаю надзею на добрае сужыццё ўсіх рэлігійных вызнанняў з аднаго боку і Рэспублікі Беларусь, з другога боку. Не ўяўляю сабе, каб вызнанні гэтыя, дзейнічаючыя на духоўным грунце беларускай нацыі, мелі касмапалітычны рэнегацкі характар або каб служылі іншай, чым беларуская, мове або іншай, чым беларуская, нацыянальнай свядомасці. Беларускі патрыятызм, беларуская мова і беларускі гонар павінны апанаваць усе веравызнанні на Беларусі.

**Алесь Барскі**

### ЗАЯВА РЭДАКЦЫЙНАГА КАЛЕКТЫВУ

1. Забранне Прэзідыумам ГП БГКТ камп'ютэрнага абсталявання, на якім быў роблены набор тыднёвіка «Ніва», разладзіла працу ў рэдакцыі і паставіла пад сумненне далейшае выдаванне газеты. Рэдакцыйны калектыў дамагаецца звароту камп'ютэрнага абсталявання да дня 22 красавіка 1992 г. Без выканання гэтага пастулату рэдакцыйны калектыў не бачыць магчымасці выпуску газеты.

2. Назначэнне Прэзідыумам ГП БГКТ новага рэдактара «Нівы» без кансультацыі з рэдакцыйным калектывам з'яўляецца дзеяннем антыдэмакратычным, якое выклікае развал працы ў рэдакцыі. Выказваем рашучае непрыняццё намінацыі Янкі Целушэцкага на рэдактара «Нівы».

Беласток, 21 красавіка 1992 г.

Члены рэдакцыйнага калектыву:
Ян Максімюк, Міраслава Лукша, Галіна Раманюк, Уладзіслаў Петрук, Марыя Федарук, Аляксандр Максімюк, Мікалай Ваўранюк, Яўгенія Палоцкая, Віталь Луба, Ада Чачуга.

**Do Pana Ministra**
**Kultury i Sztuki**
**Rzeczypospolitej Polskiej**

Zespół redakcyjny tygodnika białoruskiego "Niwa" stoi na stanowisku, iż tygodnik nasz powinien być pismem całej społeczności białoruskiej w Polsce, nie zaś organem Białoruskiego Towarzystwa Społeczno-Kulturalnego - jednej z wielu organizacji tę społeczność reprezentujących.

Edycja tygodnika "Niwa" rozliczana jest ze skarbu Państwa, a nie z kasy Białoruskiego Towarzystwa Społeczno-Kulturalnego, które jest jedynie pośrednikiem dotacji Ministerstwa Kultury i Sztuki. Jak informuje nas komunikat Ministerstwa Kultury i Sztuki DEK XIV 521/MN/19/92 dotacja ta przeznaczona jest wyłącznie na edycję tygodnika "Niwa", a nie na działalność statutową Białoruskiego Towarzystwa Społeczno-Kulturalnego.

Zakupiony w 1990 roku z dotacji Ministerstwa Kultury i Sztuki komputerowy sprzęt edytorski posłużył usprawnieniu pracy redakcyjnej, skróceniu cyklu wydawniczego i obniżeniu kosztów druku. Zajęcie tego sprzętu w dniu 13-04-1992 przez kierownictwo Białoruskiego Towarzystwa Społeczno-Kulturalnego uniemożliwia kontynuowanie pracy na osiągniętym przez zespół redakcyjny poziomie, ciągłe zaś uzurpowanie przez Białoruskie Towarzystwo Społeczno-Kulturalne prawa do tytułu tygodnika nie odpowiada stanowi faktycznemu i przeczy zarazem wolności słowa w Rzeczypospolitej.

Dlatego też zespół redakcyjny uważa, iż tygodnik "Niwa" powinien być niezależnym pismem białoruskim, wydawanym przez zespół redakcyjny, dotowanym bezpośrednio przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.

Zespół redakcyjny prosi Pana Ministra o zajęcie stanowiska wobec zawartej w niniejszym piśmie sugestii.

*Za zespół redakcyjny:*
*Witalis Łuba, Władysław Pietruk, Mirosława Łuksza, Mikołaj Wawrzeniuk, Aleksander Maksymiuk, Eugenia Połocka, Halina Romaniuk, Maria Fiedoruk.*

Białystok, 1992.04.15

**Do Pana Ministra**
**Kultury i Sztuki**
**Rzeczypospolitej Polskiej**

Rada Organizacji Białoruskich zwraca się do Pana Ministra z prośbą o zajęcie stanowiska wobec prób przejęcia całkowitej kontroli nad działalnością redakcji tygodnika białoruskiego "Niwa" przez Zarząd Główny Białoruskiego Towarzystwa Społeczno-Kulturalnego.

W związku z odebraniem komputerowego sprzętu edytorskiego pod znakiem zapytania staje się dalsze wydawanie tygodnika "Niwa". Warunki, jakie proponuje ZG BTSK, oznaczają całkowite uzależnienie treści "Niwy" od poglądów funkcjonariuszy tej organizacji.

Prosimy Pana Ministra o określenie, kto ma dysponować dotacją na wydawanie tygodnika "Niwa".

Rada Organizacji Białoruskich uważa, że tygodnik "Niwa" powinien być pismem całego środowiska białoruskiego w Polsce, niezależnym od jakiejkolwiek organizacji.

Podpisali:
Przewodniczący Rady Organizacji Białoruskich - Piotr Juszczuk, Przewodniczący Rady Głównej BZD - Oleg Łatyszonek, Przewodnicząca Białoruskiego Zrzeszenia Studentów - Barbara Kuczyńska, za Białoruski Komitet Wyborczy - Piotr Kruk, Stowarzyszenie Dziennikarzy Białoruskich (w rej.) - Jerzy Chmielewski, Białoruskie Stowarzyszenie Literackie "Białowieża" - Wiktor Szwed.

## IX АПОШНЯЯ СТЫЧКА

*працяг са стар. 1*

Нават пад час рэдакцыйнага сходу 15 красавіка абнадзейваў магчымасцю пагаднення з Таварыствам. Але на гэтым сходзе ўзнік таксама ліст у Міністэрства культуры і мастацтва з просьбай высвятліць статус «Нівы» /яго змест друкуем асобна/.

### ДРУГАЯ ЛАСТАЎКА РЭФОРМАЎ

Пятніца перад каталіцкім Вялікаднем прайшла ў атмасферы падтрымкі галоўнаму рэдактару, які сваёй мэтай лічыў не спыніць выпуск газеты. Але мы ведалі, што ў гэты дзень у Гайнаўцы збіраецца адмысловае зборышча - Прэзідыум ГП, які не мог абмінуць і пытання «Нівы». Пра рашэнне гэтага зборышча даведаліся мы, як і ўвесь рэдакцыйны гурт, толькі ў аўторак 21 красавіка. Беластоцкая прэса і мясцовае радыёвяшчанне паведамілі пра «назначэнне» новага галоўнага рэдактара «Нівы». Прэзідыум ГП пажадаў сабе, каб стаў ім Янка Целушэцкі - карэктар, не штатны працаўнік рэдакцыі, які колькі дзён раней урачыста развітаўся з працаўнікамі рэдакцыі з выпадку адыходу на пенсію. Мала гэтага, ён жа загадзя даў пісьмовую згоду на сваю кандыдатуру. Галоўны рэдактар Віталь Луба ў выніку націскаў на яго асобу Прэзідыума ГП БГКТ /патрабаваліся персанальныя змены ў рэдакцыі і недапусканне да друку тэкстаў з крытыкай у адрас БГКТ/ адмовіўся ад свае функцыі.

### УРАЧЫСТАЕ ПРЫВІТАННЕ ГАЛОЎНАГА... ПЕНСІЯНЕРА

Бэгэкатоўскі намінат вырашыў, відаць, прывітацца з калектывам не менш урачыста, чымся з ім нядаўна развітаўся. Дзеля гэтага, мусібыць, склікаў ён яшчэ ў аўторак рэдакцыю. Галоўным рэдактарам адчуваў сябе настолькі ўпэўнена, што нават не пакваліўся паведаміць аб «намінацыі» сваіх «падначаленых». Таму працаўнікі рэдакцыі паставілі яму адзінае разумнае ў такой сітуацыі пытанне: хто вы такі? Паколькі намінат меў цьмянае ўяўленне, што такое сход і яго парадак, рэдактары самі паставілі на абмеркаванне два найгалоўныя пункты: зварот камп'ютэраў як варунак далейшай працы рэдакцыі і непрыняццё «намінацыі» Янкі Целушэцкага /пастановы друкуюцца асобна/. Метад, адзначым тут, якім Прэзідыум «назначыў» галоўнага рэдактара - без якой-колечы кансультацыі з калектывам - не практыкаваўся нават у часы сталіншчыны. Тады прынамсі стваралася ўражанне нейкай кансультацыі.

### ЯК РЭДАКЦЫЯ ДАКАНАЛА СТАЛІНШЧЫНУ?

Нягледзячы на зусім ясную пазіцыю рэдакцыйнага гурту, выяўленую ў заяве, намінат Янка Целушэцкі цэлую сераду сноўдаўся па рэдакцыйных памяшканнях, а ў чацвер раніцай пачаў нават палохаць дысцыплінарнымі звальненнямі. Нахабніцтва пераходзіла межы прыстойнасці, але калі намінат стаў дамагацца ў галоўнага рэдактара пячатак, пагражаючы яму пракурорам, сітуацыя абярталася ўжо ў фарс. Давялося гэтага чалавека адправіць. Сталася гэта ў самы адпаведны час, бо праз хвілін некалькі ў рэдакцыю зайшоў адміністратар будынка, каб памяняць замкі ў дзвярах. Галоўны рэдактар Віталь Луба адказаў яму згодна з праўдай, што аб такой патрэбе не заяўляў.

### САМІ ГУЛЯЙЦЕ СВАІМІ КАМП'ЮТЭРАМІ!

Яшчэ ў гэты самы дзень галоўны рэдактар з машыністкамі перанеслі ўсе рэдакцыйныя матэрыялы з Варшаўскай на Сураскую. У сядзібе ГП БГКТ сядзеў чырвоны, казалі, намінат Целушэцкі ды агрызаўся: я і адсюль буду вамі кіраваць. «Ніва» будзе выходзіць. Без бэгэкатоўскіх камп'ютэраў, калі ўжо такая воля Прэзідыума. Рэдакцыя абмеркавала, што ў змозе выпускаць газету і без гэтай апаратуры, а напэўна ўжо без намінатаў БГКТ. Чытайце Беларускі тыднёвік «Ніва»!

*МІКОЛА ВАЎРАНЮК*
*АЛЯКСАНДАР МАКСІМЮК*

P.S. У склад Прэзідыума Галоўнага праўлення БГКТ, які «рэфармаваў» «Ніву», уваходзяць: Аляксандр Баршчэўскі /старшыня/, Мікалай Бушко, Канстанцін Майсеня, Янка Сычэўскі, Валянціна Ласкевіч, Мікалай Мікалаюк, Аляксей Карпюк, Сяргей Лукашук, Аляксандр Іваноўскі. Не залічылі мы ў гэту кампанію Віталя Лубу, бо не думаем, што пасля пасяджэння ў пятніцу 17 красавіка захоча ён удзельнічаць ў гэтым зборышчы надалей.

БЕЛАВЕЖА

СТАРОНКА ЛІТАРАТУРНА МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ № 388

# ДЭБЮТЫ



**Анэта Гаўрылюк** (нар. 20 красавіка 1975 г. у Саках, каля Кляшчэляў. Там закончыла пачатковую школу. Зараз з'яўляецца вучаніцай другога класа Беларускага ліцэя ў Бельску-Падляшскім).

* * *

Халодная, дрыжачая,
Занепакоеная бязмерцаю
калькасцю слоў,
Веючая халодным ветрам,
Спяваючая дажджом —
Прыйшла напоўна.
Палохаючыся прыдарожных ценяў,
Хаваючыся за зваламі хмар,
Нявінна паказала бледнаваты твар,
На адну хвіліну заззяла яе ўсмешка.
Момант — яснасць неба, цеплыня...
І зноў пустка, шэрасць.
Глядзі!
У далечыні віднее яе вопратка
Фанабэрыстая, сатканая з агнявых
лісткоў.



**Марыя Аліфер** (нар. 13 ліпеня 1974 г. у Старым Ляўкове. Там закончыла пачатковую школу. Затым пачала вучобу ў Беларускім ліцэі ў Бельску-Падляшскім. Зараз яна вучаніца трэцяга класа).

### Пеўні

Сонца збудзілі спевам,
Зямлю абагрэлі промні,
Плён выдала зямля.
Людзей накарміў плён,
А чалавек хоча з'есці пеўняў.

* * *

Утопішся
у сініх вачах.
Задушышся
у мілых абдымках.
Згарыш
у цеплыні ўсмешкі.
Атруцішся
шчырым пацалункам.
Загінеш
пакахаўшы!



**Раман Ярмоцік** (нар. 21 жніўня 1973 г. у Арэхвічах. Вучань чацвёртага класа Беларускага ліцэя ў Бельску-Падляшскім).

### Трэба разам

Мне пра гэта ідзе,
Каб усім нам было добра,
Каб мы, беларусы, спакойна жылі,
І каб жылі і не баяліся,
Што мы беларусы.

Мы жывем у сябе.
Тут мы нарадзіліся
І тут мы памром.

Нам нічога з плачу не прыдзе,
Нам жаль непатрэбны.
Мы павінны разам ісці!
І калі будзем ісці разам,
Да свабоды, да свайго шчасця
дойдзем.

**Уладзімір Гайдук**

* * *

Т.З.

Падумала хоць раз аб тым,
Чытаючы паэтаў строфы —
Шлях Ісціны і шлях Галгофы
Над Рубіконам вечнасці блакіт

І скрып пяра ў начной цішы
Лебедзь астральны і трава ў расе
Пачуць хоць раз жаданы спеў
А потым вочы стомлена на міг
закрыць

Час працы словы
ажывіў апраўдан труд
Гармоніі закон у новай форме
Дух бунту актам стаў пакоры
У вершы завяршыўся Абсалют

* * *

У чатырох сценах
Краявід нязносны
Хаос і пустэча —
Арахна выткала сець лёсу...

# „ЧУЦЬ ЗЯМЛІ БОЖАЕ ТХНЕННЕ"

У хроніцы Беларускага літаратурнага аб'яднання "Белавежа" ёсць занатоўка, што 26 кастрычніка 1956 года вершам „Захад сонца" дэбютаваў на старонках „Нівы" *Уладзімір Гайдук*. Хто сёння памятае яго? У штодзённасці на мову практыкі перакладаем пазітывістычныя тэорыі ды лозунгі. Асаджаныя з усіх бакоў праблемамі сваёй эканамічнай экзістэнцыі, рэдка звяртаемся да паэзіі. Каму яна ў наш час патрэбна? „Życie jest formą istnienia białka, tylko w kominie coś czasem załka" — гаворыцца ў вядомай польскай песні. Але толькі зрэдку затрымліваемся ў сваёй бегатні, заслуханыя ў тое клічучае нас „Ikanie", і адсланяецца іншае жыццё, не тое, якім яно нам здавалася. Аднак, гэтае лірычнае ўзрушэнне хутка мінае і зноў вяртаемся ў схематычныя будні, несвядомыя факту, што вяртанне падрыхтавала нам імення тая хвіліна, што прамінула, астаўляючы — непадуладную разумоваму агляду — страву для душы.

Час мінае беспаваротна, няўмольна, і не агледзімся, як хтось з тых, што прыйдуць пасля нас, напіша: быў, жыў у Тарнопалі Уладзімір Гайдук, паэт-селянін, які спяваў і араў. Ды і зараз прозвішча гэтага творцы паяўляецца аказіяльна. Апошнім часам — з прычыны выдання ў Бібліятэцы Беларускага літаратурнага аб'яднання Белавежа" паэтычнай кнігі „Блакітны вырай", пад рэдакцыяй Яна Чыквіна. Уладзімір Гайдук піша не для славы, а для сябе. І таму не лёгка каму-кольвек займецца ад яго запіс яго ж найдалікатных парушэнняў душэўнага свету.

Творчую асабовасць Уладзіміра Гайдука фармуе лёс селяніна з прыгнятальнымі ды нязменнымі ў Польшчы шматгадовымі рэаліямі вясковай будзёншчыны, далёкай ад буколікі. У паэтычным свеце аўтара „Ракіты" не знаходзім, аднак, скаргі, пачуцця дыскамфорту ці нязгоды на вясковы лёс, які яму прышлося спаўняць. Яго вершы не адлюстроўваюць вобразу паэта, збунтаванага супраць той рэчаіснасці, якая вызначаецца і мераецца працаю, фізічнай працаю да сёмых потаў. Ці ж не абмяжоўвае яна творчыя магчымасці? У асабовасці гэтага творцы два аблічча — селяніна і паэта — жывуць у сімбіёзе і можна іх параўнаць з двума крыламі; сягоння, калі б не стала аднаго з іх, паэт страціў бы ўнутраную раўнавагу, таму што інакш не сумеў бы жыць. Роўнай мерай аддае свой талент зямлі і паэзіі. Сваю творчасць умяшчае ў кантэксце свайго земляробскага лёсу, а сэнс жыцця бачыць у арганічным спалучэнні горычы-цярпення і радасці. „Прыпісанасць да зямлі" сталася ў выпадку паэта з Тарнопаля не толькі справаю непазбежнасці, але і справаю выбару яго волі, прызначэннем і прыняццем. Уладзімір Гайдук жыве для верша і „аддае сваё сэрца той хвіліне, якая вечна свежай будзе на паперы".

Увекавечванне эмоцый у паэтычным слове — гэта адна з магчымасцей адраджэння чалавека. Іншая ўзнікае з блізкага, штодзённага кантакту чалавека з прыродаю, з глыбокага, праніклёнага яе назірання, з разумення адвечных правоў жыцця і смерці, прамінання і адраджэння. Вось гэтае *„вока прыроды"* перш за ўсё характарызуе паэтычную творчасць Уладзіміра Гайдука, творчасць багатую архетыпамі і пра-сімваламі *Маці-зямлі, аратага, зярнят, сейбіта, касы*, што збірае плён. У аснове канцэпцыі прыроды, якая арганізуе паэтычны свет уяўленняў гэтага творцы, ляжыць *культ зямлі* і выплываючых з яе вітальных сіл, ажыццяўляючых прыроду. Яе вегетатыўны рытм спалучаецца з матывам вечнага адраджэння. Адсюль у вершах аўтара „Блакітнага выраю" так многа вясны і „нараджаючайся душы", і так мала зімы ды суму восені. Паэт з радасцю вітае ўсё, у чым праяўляецца жыццё, што расце, цвіце. У паэтычным свеце Уладзіміра Гайдука ўладарыць вясна, ёсць поўня лета — час даспявання-спеласці і найвысшага росквіту, калі таямнічыя сілы космасу рэгулююць жыццё прыроды, спалучаючы ў гарманічнае адзінства экзістэнцыю людзей, раслін і звяроў. Культ зямлі, кормленай спевам жаўрукоў і потам селяніна, удухаўленне так вельмі роднай і блізкай паэту прыроды, вызначаюць сродкі мастацкага выказвання, што асабліва праяўляецца ў каларыстыцы, святочнасвятых красках, характэрных для гэтай паэзіі — залаты, белы ды блакітны, які адлюстроўвае неба, трываласць, душэўны спакой. Пад час сенакосаў „калышуцца белыя штандары кашуль", у паэтычных вобразах дня, поўных сонца, даючага жыццё, уладарыць залаты колер, а блакіт усё сабой спавівае і лагодна накрывае. Якраз праз колер прырода ў вершах Уладзіміра Гайдука праяўляе рысы боскасці.

Дзякуючы глыбокаму адчуванню сувязі з зямлёю, „святым пунктам космасу", паэт знаходзіць сваё месца ў жыцці: то зямля падпарадкоўваецца законам прыроды і ахоплівае сваёй гармоніяй, ладам і чалавека. У вершах аўтара „Ракіты" прырода не толькі прысутнічае; яна жыве, адчувае, памагае лепш зразумець іншага чалавека, будзіць пачуцці, вызваляе эмоцыі, узбуджае лірычнае захапленне, з'яўляецца інспіруючай крыніцай філасофскіх разважанняў, вучыць бачыць у адуванчыку лёс чалавека, у нетрываласці расліны — вечнае прамінанне, крохкасць нашага побыту ў свеце.

Вельмі цікава, што герой вершаў Уладзіміра Гайдука не ўспрымае прыроду тыпова па-сялянску, не топча траву толькі таму, што яе можна стаптаць. Яго адносіны да прыроды глыбока рэфлексійныя. Выбраўшыся нарэзаць галінак ракіты на кошык, стае з нажом перад ёю ў задуме — найперш вецер пазрываў ёй лісцё, цяпер чалавек пазбавіць яе жыцця. З ракіты выпляце ён кошык поўны лёсу, лёсу радаснага ды агорклага.

Здаецца, што эпіграфам да глыбокіх і кранальных строф Уладзіміра Гайдука могуць быць словы польскага паэта, таксама моцна ўросшага ў зямлю, Яна Поцка:

*Ziemio*
*spiewem skowronków karmiona*
*barwniejsza od pliszek i szczygłów*
*tak bardzo jestem szczęśliwy*
*że ty własnie*
*jesteś*
*moja ojczyzna.*

**Тэрэса Занеўская**

### ВЯСКОВЫ АСЯРОДАК ЗДАРОЎЯ Ў РЫБАЛАХ

Рыбалаўскі асяродак здароўя размясціўся ў прыгожа памаляваным, двухпавярховым драўляным будынку. Будынак гэты стаіць за зялёным плотам, вядзе да яго шырокі, выцэментаваны тратуар, паабапал якога растуць прыгожыя кветкі. Кветкі палівае і даглядае прыбіральшчыца Зіна Добаш. Яна трымае таксама беззаганную чысціню ўнутры асяродка.

Штодзень, ужо ў 7 гадзін раніцы, можна сустрэць там сімпатычную дзяўчыну - медсястру Ірэну Іванюк. Да пацыентаў яна заўсёды звяртаецца з усмешкай - і тады, калі іх рэгіструе, і тады, калі нясе першую дапамогу. Пацыенты, бачачы такую мілую абслугу, адразу адчуваюць сябе здаравейшымі. Ірэна Іванюк працуе тут ужо трэці год. Жыве яна ў суседняй вёсцы Плёскі, на працу ездзіць аўтобусам.

Кіраўніком асяродка з'яўляецца доктар Цэцылія Мослер. У Рыбалах працуе яна ўжо шмат гадоў, хаця сама жыве ў Беластоку. У сваіх пацыентаў карыстаецца вялікім даверам і пашанай. На другім паверсе будынка - дантыстычны кабінет. Кіраўнік яго гэта сімпатычны доктар Дарыюш Арлоўскі, які таксама прыязджае з Беластока. Дапамагае яму сястра Ірэна Іванюк /у медсясцёр сходнасць прозвішчаў/, прычым на гэтым месцы працуе яна ад 1 верасня 1962 года. Раней закончыла Бельскі беларускі ліцэй ды курс дантыстычнай дапамогі. Жыве з сям'ёю ў Плёсках, дзе займаецца таксама гаспадаркай. Добра ведае вясковае жыццё, любіць яго. А яе вельмі любяць і шануюць пацыенты. Хацелася б, каб такіх людзей, як працаўнікі вясковага асяродка здароўя ў Рыбалах, было як мага больш. Жадаю ўсім ім многа здароўя, шчасця ды задавальнення са сваёй працы.

**УЛАДЗІМІР ГУРАЛЕЎСКІ**

## З ДЗЁННІКАЎ САКРАТА ЯНОВІЧА

**24-07-1988 г.**

Тарасэвіч (Лёнік) вярнуўся з Амерыкі (13-га). Набыўся ў ёй ды наездзіўся (нават на Гавайскія астравы паспеў). Беларуская эміграцыя тамака — тая ж вёска. Маладое пакаленне, акрамя рэдкіх выключэнняў, асімілявалася (па-беларуску ні „бэ", ні „мэ"!). А старыя за грашыма свету не бачаць. Нельга разлічваць на іхную помач; прынамсі матэрыяльную, якая была б да крайнасці просценькая з іх боку, калі памятаць, што за ... аднадзённы заробак у ЗША магчыма пражыць аж паўгода ў ПНР!!!

Лёнік анічога ад іх не дабіўся нам тут, дзеля агульнай справы. А ці дабіваўся? Затое вельмі шмат ... для сябе, як бачу я. Сумная гэта канстатацыя.

Гнявіць мяне і тое ў Лёніку, што ён не разумее небяспекі для сябе ў такім эгаістычным падыходзе да магчымасцяў, якія хутка і шырокім планам адкрыліся перад ім у свеце. Дарэчы, эгаізм у мастакоў — гэта норма, хоць (...). Я думаў (...), што ёсць у яго шмат-што сказаць мне, напрыклад, пра напісанне (супольна з Туронкам і Мірановічамі) падручнай гісторыі Беларусі, аб чым дамаўляліся 6-га сакавіка ... Але пра гэта не пачуў я ад яго ні слова. Як бы ўзамен наслухаўся ад Лёніка аб тым, як падае ... мой аўтарытэт у вачах маладых беларусаў (закончыўся чарговы паход, „Бацькаўшчына — 5", з'явіліся „Сустрэчы" н-р 8-9). Бо: даў я згоду стаць кандыдатам у кандыдаты на дэпутатаў Ваяводскай рады ў Беластоку, сам я пішу ў „Ніве" пра сваю творчасць, дамагаюся быць узнагароджаным, падлізваюся беларускаму ЦК у Мінску (vide: „Archiuny ssytak"). Гэта настолькі ашаламіла мяне, што я не меў сілаў адбівацца, прыпамінаючы, хаця б толькі самому Лёніку, усенькія яго „заляцанкі да рэжыму" ды ўзнагароды за ўзнагародамі, а ўсе афіцыйныя! Ды і ўзвышаны ім Туронак знакаміта забяспечаны (...), etc. У мяне нічога такога няма, нават невялікага штата! І раптам я ... маральная анучa?

Калі глядзець без эмоцыяў на гэтую, даўно ўжо новую сітуацыю, дык павінен я быць грунтоўна задаволеным: беларускі рух перарос мяне як дзеяча ды ідэолага, нарэшце! Не лішне ўсвядоміць сабе тое яшчэ і яшчэ раз. Цяпер зрэдку нехта наведае мяне, часам пазвоніць, ці ліст напіша ... Цішыня гэтая як быццам паўтарае маю мару: будзь ты толькі пісьменнікам, бо гэта важней за ўсё ў тваім жыцці.

Невялікую арытмію ў гэта ўнёс Мікола Давідзюк (таксама ў чацвер, але з раніцы). Хоча, каб я дабіўся канцэсіі дзеля выдавання беларускага часопіса. Усякая патаемшчына, кажа, мае мізэрны абсяг... Нічога не ведае пра ініцыятыву Туронка, чым даволі здзівіў ён мяне. Тады, 30-га чэрвеня ў кватэры Антося, я быў пэўны, што Юрка выступае так, заручыўшыся нейкай дэкларацыяй Міколы, менавіта ў аспекце тэхнічнага боку рэалізацыі ініцыятывы ... Аказваецца, не. Мікола гэтак жа гатовы ўсё прыняць на сябе, а ад мяне чакае, так сказаць, шыльды. Ведаю, што ў выпадку ўдачы з атрыманнем канцэсіі, — у якую не верыцца, — засмокчуць і мяне рэдактарскія абавязкі. Аднак, найперш трэба мець тое, чаго няма, — мінімум паўмільёнy капітал для запачаткавання пастулаванага Міколам штоквартальніка (на ксератэхнічнай базе, аб'ёмам к. 100 стар. фарм. А-5, тыр. 1 тыс. экз.).

Пра ўсё вырашыць новая ўстава, якая нібы дапусціць да свабоднага ў ініцыятыўным сэнсе заснавання прыватных выдавецтваў. Калі, вядома, дапусціць ...

„Polityka" (23-га) перадрукавала вялікія фрагменты — „Курапаты. Дарога смерці" („ЛіМ", 3.VI.). Зазначана, што г. публікацыя незвычайная нават у маштабах СССР.

Учора глядзеў па тэлебачанні фінал польскага фестывалю ў Віцебску. Не можа гэтага быць, каб не разварушыў ён і беларускае пачуццё ў зацюканай БССР! Паланізм ажыве, атрымаўшы такую магутную падтрымку з-над Віслы. Крэмль возьмецца дазваляць ставіць „беларускі плот яму" (...) Інакш Беларусь пераўтворыцца ў арэал, які некалі прадбачвалі эндэкі, — у традыцыйнае сутыкненне рускай і польскай культураў, між якімі будзе швэндацца ў ролі непатрэбнай беларуская.

*працяг будзе*

## У ПОЛЬШЧУ - ДА БЕЛАРУСАЎ

*(ПАЧАТАК У ПАПЯРЭДНІМ НУМАРЫ)*

### ГАЙНАЎКА.

Месцу гэтаму наканавана лёсам сапраўды стаць шматзначным цэнтрам у беларускім культурным жыцці не толькі Беласточчыны. Ужо каторы год Канстанцін Майсеня і людзі , якія вакол яго згуртаваліся, вядуць тут пабудову Музея здабыткаў культуры беларускай. Калі хто з нашых чытачоў трапіць сюды, магчыма, з усмешкай успомніць пра тое, што для таго, каб знайсці музей, трэба каля дзесятка разоў павярнуць «налева». Майсеня - чалавек справы. Ён - гаспадар грамадскага камітэта пабудовы музея. Будынак яшчэ будуецца, а ў будоўлі - адны складанасці, якія вырашаюцца Божай воляй, цудам і яшчэ вось такімі людзьмі. Канстанцін Мікалаевіч паказаў нам усе экспанаты, якія сабраны з навакольных беларускіх вёсак, расказаў пра функцыянальную прыналежнасць усіх пакояў гэтага ўнушальнага збудавання, падзякаваў за спрыяльную дапамогу ў наладжванні дзелавых кантактаў з Міністэрствам культуры і мастацтваў РП, аказаную ў час кароткага мінулагодняга побыту ў Польшчы нашага міністра Яўгена Вайтовіча /на будову музея польскі ўрад выдзеліў тады два мільярды злотых/. Добрым словам успомню польскага намесніка міністра Міхала Ягелу.... І папрасіў дапамогі яшчэ. Дапамогі ў нас, у беларусаў, на культурны цэнтр, існаванне якога, безумоўна, спрыяльна адаб'ецца і на душах нашых дзяцей і ўнукаў.

### БЕЛАЯ ВЕЖА

Назаўтра раніцою наша група на сваіх колах /колькі разоў потым з удзячнасцю ўспаміналі нашы абставіны ад'езду з Менска/ і з новазнаёмымі - мастачкай Тамарай Тарасевіч, а таксама яе мужам Сяргеем, паехалі ў Белую Вежу - месца, што непадалёк ад Гайнаўкі, каб сустрэцца з цікавымі людзьмі ды ўбачыць астравок, дзе некалі ўзвышаўся велічны палац рускага цара /дашчэнту знішчаны польскімі нацыяналістамі ў 70-х гадах, пад час сустрэчы тагачасных лідэраў нашых дзяржаў/. Не адмовіліся і ад кароткачасовага прыпынку ў Тарасевічаў. Найцікавейшыя людзі, свядомыя беларусы! Больш прэзентаваў карціны Тамары Сяргей. Ён наогул выглядае ў ролі менеджэра, але і сам у навакольнай пушчы сабраў шмат цікавых мудрагелістых каранёў і гіпертрафіраваныя часткі дрэў, з якімі пасля ў хатнім інтэр'еры робіць сапраўдны цуд. Што прываробжвае ў творчасці Тарасевіч - дык гэта непаўторныя колеры. А яшчэ - пастаянная прысутнасць нацыянальнага ў выглядзе праваслаўнага крыжа на гістарычных палетках, якія вякамі рупліва арэ беларускі мужык. Ці чаргаванне нацыянальных арнаментальных колераў... Работ у Тамары шмат, яе добра ведаюць у Польшчы і іншых еўрапейскіх краінах. А нядаўна выстаўка яе твораў экспанавалася ў Гродна. Але... ці лёгка ў Польшчы быць беларусам, а тым больш - беларускім мастаком? Хочаш - не хочаш, а падумаеш пра гэта, калі ведаеш, што яна, беларускасць - асноўная прычына розных козняў на шляху да членства ў Саюз мастакоў РП. Так і думалася, а чаму ж тады не падаць руку таленавітай мастачцы нашаму Саюзу? Будзе і справядліва і натуральна. На месцы царскага палаца /захаваліся толькі брама і канюшня/ зараз музей фаўны і флоры Белавежскай пушчы. Нешта накшталт нашага, што пад Брэстам. А насупраць музея, на ўзгорку растуць дубы. І яны, і гара гэтая не падуладныя ніякім нацыяналістычным настроям. Казалі нам добрыя людзі з музея: «Што б не садзілі на гары - не прыжываецца. Дубы не пушчаюць сваім магутным біяполем, якое фізічна адчуваецца пальцамі, тварам, целам людскім». А на зрэзаным суку аднаго з дубоў у апошнія гады стала праяўляцца выява іконы - сапраўды святое месца!



*У гайнаўскім музеі.*

### ЯК БЕЛАРУСЫ ЗАЙЦОЎ ЛОВЯЦЬ

Сама што прывыклі да гасціннай Гайнаўкі, але час імчыць і трэба заўтра ў Беласток на вечар Максіма Багдановіча, які ладзіцца ў будынку БГКТ. Надвячоркам да нас прыйшоў Кастусь Майсеня - прывабны, свойскі чалавек, каб расказаць, як дабрацца нам да Бандароў і развітацца з намі,

# У ІМЯ ЖЫВОГА СЛОВА



*"Хвост і мост" у выкананні Паўлаўскіх самадзейнікаў*

Янка Мордань аднекваўся і адмахваўся („я проста так, я па-за конкурсам"), калі даведаўся, што журы (ну, што ж, наскрозь жаночае: старшыня Алена Таболіч з Менска, з Інстытута замежных моў, цяпер вучыць у Гайнаўскім беларускім ліцэі, Яніна Чэрнякевіч, былая журналістка „Нівы", і ніжэй падпісаная) — прызнала яму першае месца сярод дэкламатараў у конкурсе „Сцэнічнае слова", які адбыўся ў нядзелю, 12 лютага ў зале Беларускага таварыства ў Беластоку.



*"Ананейка і дабрадзейка"*
*ў выкананні рыбалаўскіх акцёраў*

Першае месца Янку Морданю было прызнана ўсё ж не за вочы, а за высокае майстэрства, з якім не мог канкураваць ніводзін іншы дэкламатар. Мо гэта і някепска, калі тыя, што вучаць, пакуль што самі не здаюцца. Правілы ж конкурсу дазвалялі выступаць кожнаму. Вось і прачытаў ён Алеся Разанава і Уладзіміра Караткевіча.

Менавіта таму выступіла яшчэ двое старэйшых дэкламатараў — муж і жонка Віталь ды Марыя Байгуз. І расчулілі ўсіх, бо не баяліся выступіць у канкурэнцыі з юнакамі і дзяўчатамі, падрыхтаванымі на конкурс настаўнікамі беларускай мовы. Не змаглі, аднак, заняць нейкае месца ў конкурсе, бо ўмовай конкурсу было прачытаць верш і адзін празаічны твор, а ў іх прозы не было. Таму журы вырашыла прызнаць ім проста ўзнагароду за ўдзел.

Моладзь з ліцэяў і тэхнікумаў (Бельска, Гайнаўкі, Беластока)

Гайнаўкі верш П. Броўкі „І нехта ўспомніць пра мяне... " ды апавяданне С. Яновіча „Чаканне".

У Бельску і Гайнаўцы ёсць беларускія ліцэі, і тут справа прасцейшая. Але ж вельмі добра выступіла моладзь і з Беластока! Вось хаця б Адам Тарасэвіч з электрычнага тэхнікума ці Пётр Астасевіч — з механічнага. Прыходзілі на Варшаўскую і праводзілі рэпетыцыі з Янкам Морданем.

Наогул хлопцы малайцы. Так цяжка бывае іх выцягнуць на сцэну. На гэты ж раз сярод пераможцаў было іх больш, чым дзяўчат. Паглядзіце самі:

**I месца** заняў Янка Мордань,

**II месца** — Малгажата Грабоўская з Гайнаўскага беларускага ліцэя і Марыя Аліфер з Бельскага беларускага ліцэя (дэкламавала Алеся Разанава і Ларысу Геніюш),

**III месца** — Гражына Галавачык з Гайнаўкі (дэкламавала Алеся Барскага і Янку Целушэцкага) і Адам Тарасэвіч з Беластока (дэкламаваў Уладзіміра Арлова і Уладзіміра Гайдука),

Вылучэнні прызнаны: Пятру Астасевічу з Беластока (дэкламаваў Уладзіміра Караткевіча і Сакрата Яновіча) і Янушу Катэльчуку з Бельска (дэкламаваў Алеся Гаруна і Якуба Коласа).

У другой частцы конкурсу „Сцэнічнае слова" выступілі драматычныя калектывы з невялікімі сцэнкамі. Усе месцы падзялілі між сабой калектывы з Рыбалаў і Паўлаў, бо іншых і не было:

**I месца** прызнана сцэнцы „Ананейка і дабрадзейка" ў выкананні Ірэны Дзмітрук і Марка Апалінскага з Рыбалаў — пастаноўка Лідзіі Мартынюк (кіраўнічкі Дома культуры ў Рыбалах), ды сцэнцы „Хвост і мост" у выкананні самадзейнікаў з Паўлаў (Лідзія Андраюк, Васіль Андраюк, Янка Мартынюк, Янка Мордань) — пастаноўка Янкі Морданя, які быў рэжысёрам і ўсіх астатніх сцэнак,

**II месца** заняла сцэнка „Шапкі" ў выкананні калектыву з Рыбалаў (Янка Мордань, Юрка і Марэк Апалінскія),

**III месца** прыпала сцэнічнаму



*Марыя Аліфер дэкламавала*
*і вяла ўвесь конкурс.*

святліцы адбывалася сустрэча моладзі з літаратарамі — В. Шведам і Я. Целушэцкім, якія падпісвалі вучням свае кніжкі. Відаць было, што Віктар Швед крыху перажываў: сёння яго вершаў вучні не дэкламавалі. Бадай, іх густы змяніліся.

Увесь конкурс вяла Марыя Аліфер, вучаніца Бельскага беларускага ліцэя.

**АДА ЧАЧУГА**
**ФОТА СЯРГЕЯ ГРЫНЯВІЦКАГА**



*Малгажата Грабоўская*

## ДЗЕЛЯ ДОЛАРАЎ

**8.**
**Good-bye, New York...**

Зімы такой, да якой чалавек прывыклы на Беласточчыне, у Нью-Йорку не было. Пару разоў выпаў снег, але таго ж самага дня і знік. Ды ўсё ж такі даволі тут холадна ў зімовы час. Дзьмуць моцныя і пранізлівыя вятры - няйначай, уплыў акіяна. У парывах халоднага ветру, недзе ў сярэднім Мангатане, чалавек не ў змозе паверыць, што знаходзіцца на геаграфічнай шырыні Неапаля ці Ташкента. Затое летам, кажуць, тут надзвычай душна. Шмат вільгаці ў паветры, цяжка дыхаць, усе абліваюцца потам. Ёсць нешта ў вялікіх гарадах, што чыніць з іх не толькі «населеныя месцы», людскія мурашнікі, лабірынты вуліц і чалавечых лёсаў пасярод каменных сценаў, але і надае ім своесаблівую духоўную аўру, якая ўпісвае кожны паасобны лёс і кожную паасобную вуліцу нечым болей агульным і трывалым за таблічку з адрасам. З гэтага, мабыць, а не з турыстычных даведнікаў бярэцца наша найпершае жаданне пабываць у тых усіх гарадах, што такой аўрай спавітыя. Пабачыць нейкае слыннае з гісторыі месца, агульнапрызнаны помнік даўніны альбо карціны выдатнага майстра ў нейкім музеі з сусветна вядомай назвай - рэч, безумоўна, спакуслівая і, так сказаць, у наш век узведзеная турыстычным бізнесам у ранг масавага запатрабавання на нязвыкласць ці, дакладней, на прысутнасць у тых месцах, у якіх пабываць выпадае. Хаця б таму, што іншыя там былі альбо бываюць. Гэта, агульна кажучы, не так цяжка, балазе паветраная камунікацыя даволі распаўсюджаная /апошнім часам нават Менск мае аэралінію з Нью-Йоркам; чую паўтарамільённы стогн мянчанаў - ...! ці ведаеш, хлопец, колькі каштуе білет на тую лінію!? Ведаю./. Але тут я хачу паразважаць не пра эканамічны ці сацыялагічны аспекты замежных падарожжаў. Зусім сур'ёзна хацелася б напісаць пра зусім прыватнае і, магчыма не да канца асэнсаванае пачуццё наконт свайго побыту тут, у New York City. Нешта накшталт лірычнай замалёўкі ў наскрозь нелірычных карэспандэнцыях з нелірычным назовам. На заканчэнне.

Значыць, працягваючы папярэднюю думку, ува ўсе тыя гарады з агульнавядомымі назовамі вабіць мяне не столькі іхняя турыстычна-гістарычная значнасць, колькі тое, што старажытныя рымляне называлі genius loci /даслоўна: дух месца/. Акрэсленне, хоць трапнае, не паддаецца сціcламу вызначэнню ні ў сацыялагічных, ні ў гістарычных катэгорыях. Хутчэй за ўсё - у эстэтычна-мастацкіх, эфемерных і няўлоўных, таму найболей дакладных і ўражальных. Прагу пабачыць некаторыя далёкія гарады разбуджалі ўва мне кніжкі /літаратура, прыгожае пісьменства, fiction, belles lettres/, як адзіны ў свой час сродак падарожнічання, даступны чалавеку за жалезнай заслонай без важкіх знаёмстваў і тоўстага кашалька. Дублін хацелася /і хочацца/ пабачыць выключна таму, што па ім хадзіў /і далей, ажно да сканчэння часу, будзе хадзіць/ Джойсавы Блюм-Уліс; горад, безумоўна рэальны ў часе і прасторы, існуе для мяне як нейкі пазачасавы архетып горада ўвогуле - ступіць на ягоны брук абазначае адначасова ступіць у ауру Вялікага Ірландца, у фантастычную рэальнасць вуліц і месцаў /назовы і тапаграфію якіх ведаю на памяць/, абернутую ў міф, калі нават і не гамераўскі ў сваёй дастойнасці, то прынамсі роўна яму ў сваёй мастацкай цэласнасці і ўражальнасці. Альбо Александрыя! - ці была б яна ўвогуле годная ўвагі, калі б не The Alexandria Quartet Лоўрэнса Дарэла, адно з самых эфемерных і фантастычных літаратурных здзяйсненняў нашага часу?.. Ну так, Александрыйская бібліятэка, старажытныя астраномы, дынастыя Пталамеяў і айцы царквы... А цяпер Егіпет, арабы, чорт ведае што яшчэ... Але genius loci ўхапіў Лоўрэнс Дарэл, учыніўшы з гэтага горада нешта значнейшае за пункт на карце і кучу часанага камення ў пясках. Па ягоных вуліцах хадзілі Юстына, Бальтазар, Маўнтоліў і Клія, прывіды прамілага часу, які застыў на бачынках александрыйскай тэтралогіі /Сяргей Шупа, менска-віленскі перабежчык-перакладчык, бажыўся перада мною на Мангатане, што пераверне гэты александрыйскі opus у беларускую мову/. Застаецца яшчэ Канстантынас Кавафіс, стары паэт старога горада, пясняр велічы старой Грэцыі ў новагрэцкай мове, александрыйскі выгнаннік з уласнага выбару. Александрыя з тых гарадоў, якія варта было б пабачыць. Парыж мне хочацца пабачыць не дзеля Эйфелавай вежы ці Луўра. Гэта таксама, але перад усім дзеля таго зруху ў душы, які прыдарыўся мне, калі я чытаў адзін з раманаў Патрыка Мадыяно, бачынак сто, не болей, нават загаловак мне цяжка цяпер прыгадаць, але быў гэта парыжскі

# ПЕРАД ФЕСТЫВАЛЕМ ЦАРКОЎНАЙ МУЗЫКІ

**Размова з арганізатарам імпрэзы, дырэктарам Гайнаўскага дома культуры Мікалаем Бушко**

*— Год таму, з нагоды юбілейнага выпуску Міжнароднага фестывалю царкоўнай музыкі, гаварылі мы пра яго ўзнікненне ды пра гісторыю развіцця імпрэзы. У днях 13-17 мая адбудзецца XI ужо Фестываль — цікава было б пачуць, што мяняецца ў арганізацыйных справах, ці арганізацыя Фестывалю становіцца штораз лягчэйшай, ці можа кожны наступны год прыносіць новы клопат?*

**Мікалай Бушко:** Тое, аб чым гаварылі мы ў мінулым годзе — таксама ўжо гісторыя. Так злажылася, што ўсё, аб чым я тады расказваў, усе мае мары і планы — амаль поўнасцю здзейсніліся. Планы, якія датычылі ўдзелу беларускіх хораў у Фестывалі —ажыццявіліся, у мінулым годзе выступілі на Фестывалі хор Жыровіцкага манастыра, хор з Гародні ды Дзяржаўны хор радыёвяшчання і тэлебачання з Менска. Ці лягчэй, ці горш? На жаль, з кожным годам арганізаваць Фестываль цяжэй даводзіцца. На кшталт Фестывалю мае ўплыў і палітычная сітуацыя, і перад усім фінансавая. Ніколі яшчэ не здарылася, каб на месяц да Фестывалю я не ведаў грунту, на якім стаю — маю тут на ўвазе фінансавыя сродкі. Галоўны спонсар Фестывалю царкоўнай музыкі — Міністэрства культуры і мастацтва, нягледзячы на два афіцыйныя лісты ды дзесятак праведзеных мною размоў, не заняло выразнага становішча — адно праз трэція асобы даходзяць весткі, каб я не хваляваўся, бо фінансавыя сродкі на Фестываль нібыта ёсць.

*— Ці толькі дзяржаўныя ўстановы з'яўляюцца спонсарамі Фестывалю?*

**М. Бушко:** Галоўным спонсарам гэтай дзяржаўнай імпрэзы павінна быць дзяржаўная ўстанова дзеля гэтага пакліканая, але справа фінансавання Фестывалю — адкрытая. Фестываль царкоўнай музыкі патрабуе грошай незалежна ад крыніц — з боку дзяржаўных установ, якія маюць дачыненне да культуры і не маюць, з прыватных фірмаў, з краіны і замежжа. Акрамя Міністэрства культуры і мастацтва звярнуліся мы яшчэ ў адзіную ў Польшчы фундацыю культуры, якою кіруе былая міністр культуры Ізабэла Цывінская. Да гэтай пары толькі гарадская ўправа ў Гайнаўцы ясна акрэсліла памеры свайго ўдзелу ў Фестывалі ды пераліла грошы на наш рахунак. Калі ўжо гаворым пра



фінансавы ўдзел паасобных установаў, трэба сказаць таксама пра суарганізатараў. З'яўляюцца імі Гайнаўскі дом культуры, Ваяводскі цэнтр анімацыі культуры і Аддзел грамадскіх спраў Ваяводскай управы. Мушу тут таксама падзякаваць Сіноду епіскапаў Польскай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы, які прыняў рашэнне аб зборцы грошай на сёлетні Фестываль царкоўнай музыкі (будзе гэта ў нядзелю 3 мая). Спадзяюся таксама на фінансавую падтрымку Фестывалю з боку прыватных суполак, якія вырастаюць на нашай беластоцкай гаспадарчай ніве — наш Фестываль гэта можа быць для іх рэклама.

*— Ці вялікія фінансавыя наклады патрабуюцца дзеля правядзення Фестывалю ў гэтым годзе?*

**М. Бушко:** Аптымальны варыянт Фестывалю, пры ўмове, што ўтрымаюцца цэны на паслугі, патрабуе больш за 50 тысяч долараў. Для нас, беднага грамадства, сума гэтая можа паказацца вялікай, але ў нармальным грамадстве, калі ўзяць пад увагу велічыню і ранг Фестывалю — сума гэта невялікая. Я неаднойчы сустракаўся з выказваннямі людзей, якія не верылі, што за такія грошы можна наладзіць фестываль такога маштабу. Трэба тут прыпомніць, што Фестываль царкоўнай музыкі ў Гайнаўцы — гэта адзіная гэтага тыпу імпрэза як у Польшчы, так і ў цэлым свеце. Трэба толькі цешыцца, што ідэя такога фестывалю ўзнікла і ажыццявілася ў такім закінутым і малавядомым мястэчку як Гайнаўка.

*— Хто ў гэтым годзе выступіць у Гайнаўцы?*

**М. Бушко:** У гэтым годзе прапануем слухачу крышку новую формулу Фестывалю. Запачаткуе Фестываль Дзяржаўны хор радыёвяшчання і тэлебачання з Менска, наш мінулагодні лаўрэат — выступіць ён у сераду 13 мая. Затым у чацвер, пятніцу і суботу адбудзецца конкурс. Чацвер будзе днём парафіяльных хораў — выступяць два хоры з Гайнаўкі, два з Беластока, адзін з Вроцлава, хор з Санока і з Пружан, што на Берасцейшчыне. Пятніцу назвалі мы днём іншых парафіяльных хораў — выступіць хор Хрысціянскай тэалагічнай акадэміі ў Варшаве, хор духавенства Беластоцка-Гданьскай епархіі, хор Менскай праваслаўнай семінарыі і манахаў Жыровіцкага манастыра, спадзяемся таксама хору з Пачаеўскага манастыра, вядуцца перамовы з хорам Кіева-Пячэрскай лаўры. У пятніцу пачуем таксама хор Румынскага патрыярхата, а закончыць гэты дзень выступ хору з Менскага палаца культуры прафсаюзаў — будзе гэта пачатак выступаў свецкіх хораў, большасць якіх пачуем у суботу. У суботу выступяць хор Кракаўскай палітэхнікі, хор „Лютня" з Варшавы, хор Пазнанскай палітэхнікі і, у гэты ж самы дзень, пяройдзем у катэгорыю свецкіх прафесійных хораў. Сярод іх пачуем хор царкоўнай музыкі з Гародні, варшаўскі хор пад кіраўніцтвам Юрыя Шурбака, а затым адзін хор альбо з Кіева, альбо з Масквы — тут мы яшчэ не вырашылі. Закончыць Фестываль хор Санкт-Пецярбургскай кансерваторыі.

*— Хто ў гэтым годзе будзе ацэньваць выступы хораў?*

**М. Бушко:** Узначальваць журы будзе прафесар Рамуальд Твардоўскі. У склад журы ўвойдзе Марчэла Эрэгіна, Гай Пікарда, айцец Мікалай Лянчэўскі, удзел у журы будзем прапанаваць таксама прадстаўніку Польскага радыё і спадзяемся, што ўдзел у журы абавязкова прыме прафесар Віктар Роўда.

*— Дзякую Вам за размову.*

Гутарыў:

**АЛЯКСАНДР МАКСІМЮК**

**Фота аўтара**

**Банкавыя рахункі Міжнароднага фестывалю царкоўнай музыкі ў Гайнаўцы:**

*(у злотых)*
Międzynarodowy Festiwal Muzyki Cerkiewnej — Hajnówka PBK S.A. Hajnówka
370422-589-139-11

*(у замежнай валюце)*
Międzynarodowy Festiwal Muzyki Cerkiewnej — Hajnówka PBK S.A. Hajnówka
370422-35321-152-37871

---

раман, з даволі эфемерным сюжэтам у вялікім і чужым горадзе, літаратурная рэальнасць /фантастычнасць/ якога засела ў душы назаўсёды, у сферы невымоўнага.

Ёсць нейкая магічная сіла ў некаторых гарадах, якая выпраменьвае сваё поле па-за межы турыстычных бэдэкераў і падручнікаў гісторыі. Медыумамі /менавіта так, хоць трэба было б падшукаць і беларускае слова на гэта - носьбіт? пасрэднік?/ гэтае сілы з'яўляюцца ў першую чаргу мастакі /слова альбо пэндзля/, якія пераўтвараюць фізічную датыкальнасць урбаністычнай ваколіцы ў адухоўлены прывід, у міфалагічны архетып з сучасным назовам. Над горадам засноўваецца аўра, запах якой вабіць мацней, чымсьці добрыя гатэлі, выгадная камунікацыя і нешта най- /большае, вышэйшае, старэйшае, паскуднейшае, выдатнейшае, etc./. Для прыкладу, Менск - горад без аніякае аўры, кашмарнае места кашмарных камуністаў, мёртвая абалонка, застылы помнік таталітарнай эстэтыкі ў мастацтве, літаратуры, палітыцы і сексуальным жыцці. Да гэтага - сталіца новай садружнасці, падумаеш. Аднак жа ніякага параўнання з Вільняй. Вільня не мела свайго Джойса, але тамака пабываў хоць адзін наш дзядзька з нашай зямлі, і гэтага ўжо хопіць, каб ехаць туды з болей жывым пачуццём, чымсьці ў Менск /адзін дзядзька з Менска хоча ехаць туды на танках!/.

Нью-Йорк прывабны падвойнай аўрай - той, якую для мяне заснавалі Дос Пасас і Трумен Кэпоўт - з аднаго боку, і камуністычная прапаганда - з другога. Значыць, горад-молах, пачвара, якая нішчыць індывідуальнасць у імя ўсемагутнага долара, метраполія пузатых містэраў туістэраў і прыгнечаных неграў, якіх ці не на кожным кроку лупцуюць бізунамі. Значыць таксама, горад неабмежаваных магчымасцяў, бляску ювелірнай крамы Tiffany's і апантанага памкнення да багацця і славы. Горад велізарных кантрастаў, урэшце. Усё яно, за выняткам аднае дробязі аказалася праўдай. І Tiffany's, і пузачы, і кантрасты. І тая пагоня за доларам, якая адбываецца ў групцы хмарадзёраў на Wall Street, на пару гектарах найдаражэйшага грунту на свеце. А пару блёкамі далей нью-йоркскія валацугі перατрасаюць кашы на смецце, шукаючы у іх недакуркі альбо недаедкі. Расказваюць, аднае зімы, болей снежнай і марознай, чымсьці сёлетняя, губернатар штата злітасціўся над тымі валацугамі і выдаў распараджэнне, каб усіх іх памясцілі нанач пад дах, у цяпло, і далі паесці нейкай цёплай стравы. Паліцыя сумленна выканала гэтае губернатарскае пажаданне. Адылі наступнага дня адзін з валацугаў падаў на губернатара ў суд - абскардзіў яго ў парушэнні асабістае свабоды, загарантаванай канстытуцыяй ЗША.

Справу выйграў, і губернатар заплаціў яму прадугледжаны правам грашавы эквівалент за нанесеную маральную і грамадзянскую шкоду. Справа з фантастычных, але, як кажа нам Дастаеўскі, у такіх фантастычных сітуацыях рэальнасць праяўляе сябе асабліва выразна, у згушчаным выглядзе. Справа менавіта датычыла асабістае свабоды, свабоды выбару асабістага лёсу - яна /тая свабода/ з'яўляецца тут неад'емнай прывілеяй чалавека па сутнасці, без увагі на ягоны сацыяльны статус. Што так мае быць - мы нібыта ведалі і без Амерыкі. Ведалі - але не верылі, што такое недзе ёсць. Жылі ў зусім іншай аўры. Гэткім чынам, трэба было б закончыць. У Нью-Йорку ўсё цікавае - кнігарні, язда падземкай, парад у дзень Святога Патрыка /патрона Ірландыі/, выпадковая размова на вуліцы, прастытуткі ў паўднёвым Брукліне і артадаксальныя яўрэі з пейсамі. Неграў тут не б'юць і не прыгнятаюць - вось тая дробязь, якая выявілася на месцы, насуперак спадзяванняў, выкармленых сентыментальнай бальшавіцкай лухтой. Усё нармальна. Ад негра тут можна дастаць па мордзе не горай, як ад белага. Трэба было б яшчэ пару рэчаў зрабіць і пабачыць перад ад'ездам, каб у Беластоку ўсе паверылі, што сапраўды быў у Нью-Йорку. Безумоўна, трэба будзе ўзлезці на тую зелянкавую кабету са знічом /Статую Свабоды маю на ўвазе/ і пстрыкнуцца з ёю /зрабіць фатаграфію, шаноўныя/. А потым, можа, паехаць на сто каторысь паверх аднаго хмарадзёра, туды, куды ўсе ездзяць, і таксама пстрыкнуцца. У бары Мак-Сорлейс я быў. І пстрыкнуўся /півам Гінеса/.

**ЯН МАКСІМЮК**

Культ продкаў

## РАДАУНІЦА

Першабытны чалавек не разумеў і не верыў у натуральную непазбежнасць смерці. Смерць была мяжой, за якой пачыналася новае жыццё ў „новым свеце". Калі пасля смерці жыццё будзе прадаўжана недзе ў іншым месцы, то чалавеку няма чаго яе баяцца. Таму людзі не пужаліся мерцвякоў, ставіліся да іх як да родных, блізкіх, добрых людзей. Пералом у гістарычным і духоўным жыцці славян адбыўся ў сярэдзіне I тысячагоддзя н.э. — у эпоху вялікага рассялення славян. Свяшчэнныя захаванні продкаў, якіх да гэтага часу жывыя імкнуліся захаваць, з адыходам патомкаў засталіся безабароннымі, для новых прышэльцаў яны аказаліся не „дзядамі", а „наўямі" — чужымі, а таму патэнцыяльна варожымі мерцвякамі.

У народнай культуры беларусаў ёсць шэраг абрадаў, якія звязаны з культам продкаў — рэлігійным шанаваннем памерлых бацькоў і ўсіх родзічаў. Развіваўся ён як сямейны культ на стадыі распаду родавага ладу. Генстычна звязаны з першабытнымі анімістычнымі вераваннямі і ўяўленнямі аб продках як ахоўніках роду, нашчадках гаспадаркі.

Сярод абрадаў, звязаных з культам продкаў, адзін з найбольш старадаўніх і пашыраных — абрад палівання вадой магілы, які даўней выконваўся на памінальным піры. У славянаў ён адбываўся як да пахавання, так і пасля яго і атрымаў назву „трызна". Гэта язычніцкі пахавальны абрад. Першапачаткова складаўся ён з ахвярапрынашэнняў, ваенных гульняў і песень у гонар памерлага, а таксама памінальнага частавання напярэдадні і пасля пахавання (наладжвалі побач з месцам пахавання). Трызна звычайна адбывалася пры насыпанні кургана як урачыстае развітанне з нябожчыкам у выглядзе воіна або іншага знатнага мужа.

На думку акадэміка Б.А. Рыбакова, як у славянскай трызне, так і ў антычным пахавальным цырыманіяле галоўнае месца належала конскім турнірам. Пасля прыняцця хрысціянства трызна доўгі час захоўвалася ў выглядзе памінальных песень, частавання. Да нашых часоў дайшоў звычай пакідаць невялікую колькасць ежы і пітва для нябожчыкаў (духаў продкаў). Узліванне вадой было сімвалам хуткага непазбежнага пераходу чалавека ў іншы свет. Мэта трызны была ў неабходнасці адагнаць злосныя сілы ад жывых. Акрамя пахавальнага піру ў славян адбываліся памінкі на магілах сваіх продкаў. Праводзіліся яны практычна ў кожную пару года: вясной — радаўніца, летам — траецкія дзяды, восенню — змітраўскія дзяды, зімой — маслянічныя дзяды. На нашай тэрыторыі памінаці два разы ў год — на радаўніцу і змітраўскія дзяды. Веснавыя памінкі адбываліся ў аўторак пасля велікоднага тыдня. Усёй сям'ёй людзі збіраліся на могілках, каб правесці „памінальную трызну". Яны наладжвалі пір для продкаў.

На стале — белым абрусе ставілі мяса, сыр, куццю, хлеб, гарэлку і яйкі. Ежу палівалі вадой, каб яна пранікла ў магілу. Такім чынам адбываўся супольна з продкамі святочны пір. Ён працягваўся доўга і заканчваўся ў хаце.

АЛЬЖБЕТА ТОМЧУК

# АХВЯРЫ II СУСВЕТНАЙ ВАЙНЫ У ВЁСЦЫ ПАУЛЫ

**Раней мы друкавалі спісы ахвяр апошняй вайны з вёсак Рыбалы, Канюкі і Война, складзеныя Лявонам Федаруком з тых жа Рыбал. У гэтым нумары прапануем працяг даследчыцкай працы Л. Федарука — прозвішчы загінуўшых жыхароў Паўлаў. Вёска гэтая ў Заблудаўскай гміне, чатыры кіламетры ад Рыбал.**

У польска-нямецкай вайне 1939 года загінуў пад Познанем 23-гадовы **Іван Андраюк.**

На працу ў глыб Савецкага Саюза паехалі: **Васіль Алексяюк** (28 год) — загінуў у шахце, і **Рыгор Максімюк** (24 гады) — загінуў у невядомых акалічнасцях.

Са службы ў Чырвонай Арміі не вярнуліся: **Іван Мушынскі** (22 гады), **Пятро Барысюк** (31 год) і **Іван Марчук** (30 год). Два астатнія былі пакліканы ў запас, першы ў чынную службу.

НКВД арыштавала: **Нікіфара Краснадэмбскага** (50 год), **Андрэя Раманюка** (45 год), **Івана Цішука** (24 гады) і **Сцяпана Цішука** (45 год). Нікіфар Краснадэмбскі не вярнуўся з лагераў, Сцяпан Цішук загінуў у Арміі Андэрса ў Іраку, а Андрэй Раманюк і Іван Цішук былі расстраляны НКВД у 1944 годзе.

У 1941 годзе, каля вёскі Ваські, у Нараўскай гміне, немцы расстралялі **Аляксандра Алексюка** (38 год) і **Кірыла Мартынюка** (58 год). У 1943 годзе, каля вёскі Ляшкі, расстраляны немцамі былі: **Яўсеній Харытанюк** (42 гады) і **Васіль Галубоўскі** (40 год). **Аксенцій Галубоўскі** (60 год) быў застрэлены немцамі каля вёскі Кажаны. Арыштаваныя немцамі: у 1941 годзе **Рыгор Мінюк** (40 год) — загінуў у лагеры; у 1943 годзе **Нікадзім Нікіцюк** (40 год) — не вярнуўся дадому.

Сярод вывезеных у Нямеччыну на прымусовыя работы і ўзятых капаць акопы загінула восем асоб. Вось іхнія прозвішчы: **Аляксандр Садоўскі** (45 год) — памёр ад непасільнай працы, капаючы акопы; **Павел Харкевіч** (56 год) — загінуў у 1944 г. ва Усходняй Прусіі; **Мікалай Давідзюк** (18 год) — загінуў у 1945-ым пад Кенігсбергам; **Марыя Іванюк** (24 гады) — загінула пад Кенігсбергам у 1944 годзе; **Іван Іванюк** (18 год) — вывезены ў 1943-ім, загінуў у невядомых акалічнасцях каля Пілявы; **Іван Паўлючук** (19 год) — вывезены на работы, пасля трапіў у Чырвоную Армію, загінуў у 1945 годзе; **Міхал Цішук** (21 год) — таксама загінуў у 1945-ым, як салдат Чырвонай Арміі; **Платон Вішнеўскі** (45 год) — загінуў у невядомых абставінах.

Спаленыя жыўцом 26 ліпеня 1944 г. у Трычоўцы, у помсце за смерць двух нямецкіх афіцэраў: **Мікалай Бароўскі** (15 год), **Пятро Давідзюк** (15 год), **Андрэй Дземянюк** (30 год), **Мікалай Галубоўскі** (36 год), **Васіль Якаўчук** (35 год), **Уладзімір Краснадэмбскі** (32 гады), **Іван Апалінскі** (25 год), **Міхал Іванюк** (35 год), **Дзімітр Марчук** (40 год) і **Андрэй Паўлючук** (42 гады).

У 1944 годзе разарваны снарадам быў 14-гадовы **Мікалай Нікалаюк.**

**Сабраў ЛЯВОН ФЕДАРУК**
**Інфармавалі: Аляксандр Раманюк і Кірыл Алексяюк**

### МУЗЕЙНЫ ФОНД

Грамадскі камітэт пабудовы Музея помнікаў беларускай культуры праводзіць збор грошай на пабудову музея. Ахвяраванні трэба дасылаць на такі адрас: Bank Spółdzielczy w Hajnówce, nr konta 905217-1922-132-3, а ў замежнай валюце: Narodowy Bank Polski, I Oddział w Białymstoku, nr rachunku walutowego 5021-24325-152-6787.

Жыхары Беларусі грашовыя ахвяраванні могуць уплачваць на рахунак 141713 у Рэспубліканскім жылсацбанку горада Менска.

**Спіс чарговых ахвяравальнікаў:**

| | |
|---|---|
| 3949. Праваслаўная парафія ў Крушынянах | — 25.000 зл. |
| 3950. Праваслаўная парафія ў Мастаўлянах | —100.000 зл. |
| 3951. Аляксандр Баршчэўскі (Варшава) | —500.000 зл. |
| 3952. Аляксей Карпюк (Бельск-Падляшскі) | —200.000 зл. |
| 3953. Уладзімір Савіцкі (Беласток) | — 50.000 зл. |
| 3954. Тамара і Сяргей Тарасевічы (Белавежа) | —120.000 зл. |
| 3955. Ян Тапалянскі (Нарва) | —500.000 зл. |
| 3956. Канстанцін Майсеня (Гайнаўка) | — 60.000 зл. |
| 3957. Праўленне аддзела БГКТ у Гайнаўцы | —500.000 зл. |
| 3958. Ян Ляшчук (Гайнаўка) | — 60.000 зл. |
| 3959. Праваслаўная парафія ў Орлі | —500.000 зл. |
| 3960. Праваслаўная парафія ў Рыбалах | —317.500 зл. |
| 3961. О. і В. Алесюк (Беласток) | —100.000 зл. |
| 3962. Праваслаўная парафія Уваскрасення Гасподняга ў Беластоку | —257.000 зл. |
| 3963. Праваслаўная парафія ў Чорнай-Беластоцкай | —160.000 зл. |

Дзякуем:

Наш адрас: Społeczny Komitet Budowy Muzeum Zabytków Kultury Białoruskiej, ul. 3 Maja 42.
Тэлефон 30-16.

### Аб'ява

Грамадскі камітэт пабудовы Музея помнікаў беларускай культуры ў Гайнаўцы адступіць памяшканне плошчай 500 - 600 квадратных метраў, прыдатнае для вядзення гандлёвай /рознічнай і аптовай/ ці вытворчай дзейнасці.

Інфармацыі: Społeczny Komitet Budowy Muzeum Zabytków Kultury Białoruskiej, 17-200 Hajnówka, ul. 3 Maja 42, tel. 30-16.

## ПОЛЬШЧА НЕ АДРАЗУ СТАЛАСЯ КАТАЛІЦКАЙ

Даўно даходзіла да мяне інфармацыя аб тым, што хрысціянства ў старажытнай Польшчы ўводзілі не ксяндзы. У тыя часы, за тысячу гадоў назад, існаваў так званы славянскі абрад, створаны апосталамі Кірылам і Мяфодзіем. Быў ён падпарадкаваны папу рымскаму і таму нельга блытаць яго з праваслаўем, якое прыняла ад Канстанцінопаля Кіеўская Русь.

Яшчэ надоўга да ўзнікнення самое Польшчы, на яе паслейшых землях была заснавана славянская метраполія ў віслянаў. Гісторык **Збігнеў Дабжынскі ў працы „Славянскі абрад у даўняй Польшчы"**, надрукаванай Варшаўскай праваслаўнай метраполіяй у 1989 годзе, абгрунтавана даказвае, што каталіцтва было накінута нямецкай палітыкай і спачатку не мела яно істотнага значэння. Першы карэнна-польскі мучанік, біскуп Шчэпаноўскі, кананізаваны ў лік святых, аказваецца кракаўскім іерархам славянскай царквы, аб чым дакладна маўчыць уся рымска-каталіцкая гісторыя. Чаму, няцяжка здагадацца.

Славянскае хрысціянства пашыралася на тэрыторыі будучай Польшчы ад Вялікамараўскага княства, затым і з Чэхіі. Сённяшнія назвы рэгіёнаў — Мазоўша, Вялікапольшча, Шлёнск, Малапольшча — гэта след ад колішніх плямённых дзяржаваў, якія паступова падбірала пад сябе самая моцная з іх, вялікапольская з цэнтрам у Гнезне, потым у Познані. Але ўсюды, у гарадах і мястэчках ад Кракава і да таго ж Гнезна, ад Уроцлава да Сандоміра, усталяваліся ўжо тады царкоўныя прыходы і аніводзін касцельны. Польскія манархі (Дабжынскі называе іх найперш палянскімі) у бесупынным змаганні супроць залежнасці ад германскіх імператараў, не мелі выйсця — мусілі падтрымліваць папскую экспансію, узамен маючы палітычныя гарантыі. Рэлігія і палітыка ў тую эпоху вельмі цесна спляталіся з сабою, дапаўняючы адно аднаго. Тым не менш, ні Мешка Першы, ні Баляслаў Харобры, ні шэраг наступных самадзержцаў праз увесь адзінаццаты век і амаль палову дванаццатага не чуліся ў сілах ані, адначасна, у моцнай патрэбе знішчожыць славянскі абрад у каралеўстве, прымусіць насельніцтва да лаціцства. Калі хто з іх наважваўся часам на тэрор, фізічную ліквідацыю святароў ды спальванне цэркваў, выбухалі народныя паўстанні, прыкладам, славутае пад кіраўніцтвам Сецеха.

Славянскі абрад трымаўся так доўга, пакуль жыла ідэя імперыі славянаў ад Дунаю да Балтыкі і ад Эльбы да Дняпра. Народы і мовы ў тую гістарычную пару на тым вялізным арэале ўсяго толькі браліся фармавацца ў асобныя. Гнезна завяўвала Прагу і наадварот, каб неўзабаве рушыцца на Кіеў, а кіеўскія дружыны — на Мазоўша і нават у паморскія краіны, да магутнага Воліна. Мелася быць тое процівагаю Свяшчэннай Імперыі Рымскай Нямецкага Народу, як універсальнай улады. Калі ж, урэшце, Славяншчына падзялілася і выраслі ў ёй паасобныя вялікадзяржаўныя арганізмы, штораз занятыя ўнутранымі праблемамі ў выніку самастойнага развіцця і росту ўласных патэнцыялаў, скурчылася роля славянскага абраду як грамадска-палітычнага фактара, інтэгруючага гэтую частку кантынента, знік канчаткова недзе прыканцы дванаццатага стагоддзя. Як небяспечны прэтэкст для антыпольскіх ды антычэшскіх нашэсцяў, ізалявання ад Еўропы.

САКРАТ ЯНОВІЧ

# Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

КАСТУСЬ ЦВІРКА

## ЧОРНАЯ СКІБА

З-пад плуга твайго - убачыш здалёк -
Па полю наўпрост, за сялібай,
Плыве і пакорна кладзецца набок
Чорная скіба.
Чорная скіба! Пара - дымком.
Як хлеб, які на жары быў,
Ляжыць пад воблакам-ручніком
Чорная скіба.
Яшчэ нават продак продка твайго
Варочаў яе і раскідваў.
Зведала безліч і сох, і плугоў
Чорная скіба.
Колькі паэтаў, будаўнікоў,
Вучоных /усіх не злічыў бы/,
Як маці, карміла спакон вякоў
Чорная скіба.
Аснова асноў, без яе чалавек
Да зорак дайшоў бы хіба?
Таму і спяваю я песню табе,
Чорная скіба!

РЫГОР БАРАДУЛІН

x x x

Вясна!
Я пазнаў яе

Па смеламу пошуму, постуку.
Зямля і душа пяе.
Зялёным стаць хочацца посаху.

Шарэюцца гнёзды дрэў
У снезе над сонечным позіркам:
Карэнне адчула сугрэў,
Зялёнае крылле позніцца.

Адгорнуты крыг тамы.
Спяваюць сініцамі весніцы.
Далёка да новай зімы.
І ўсё, што задумаеш,
Здзейсніцца!

Бягуць да ракі раўчукі,
Пра даўняе мне гаворачы:
Палае шчака ля шчакі,
А вуснам і сіверна й горача.

У шэрых вачах сінізна.
Высокае неба над хатаю.
Штогод маладая вясна
Пра восень маю нагадвае.



Вясновыя панненкі - Веранічка Шніп і Аксанка Галубовіч. Фота В. Шніпа.

## МОЙ СВЕТ, МОЙ МІР

Газета школьнікаў і піянераў Беларусі «Зорька» /рускамоўная/ ў Менску аб'явіла конкурс на малюнкі і вершы «Мой свет, мой мір».

Малюнкі і плакаты могуць быць выкананы любой мастацкай тэхнікай. Высылаць іх можаце на адрас «Зоркі»" ў Беластоку /так вам будзе танней; мы потым усе разам адправім іх у Менск/ альбо на адрас «Зорькі» да канца жніўня 1992 года: 220041, Менск, праспект Ф. Сарыны, 79, рэдакцыя газеты «Зорька».

Найлепшыя вершы будзем друкаваць у «Зорцы». Хаця «Зорька» яшчэ рускамоўная, няхай яе рэдактары пабачаць,як выдатна валодаюць роднай мовай дзеці з Беласточчыны, як умеюць у сваіх вершах прадставіць сябе і свой свет!

МІРА ЛУКША

## Вершы Віктара Шведа

### СКРЫПІЦЬ ПАН НА ЭКРАНЕ

У тэлебачанні пан нейкі
Іграў на скрыпцы і іграў.
Ля тэлевізара Андрэйка,
Бясконца зморана, сказаў:

- Як можна нудзіць так страшэнна,
Мучыць усіх нас, дайце жыць!
Каб хоць умеў іграць нядрэнна,
Скрыпіць ён толькі і скрыпіць.

### ТРАСУЦЦА РУКІ У БАБУЛІ

- Дык нада мною здзекі, -
Лае матуля Кольку. -
Не п'еш ад мяне лекаў,
Ды ад бабулі толькі.

Таму, што яна туліць
Да сэрца свайго ўнука?
- Ды не, вось у бабулі
Заўжды трасуцца рукі.

### РЫБНАЯ ЦІ ЗУБНАЯ?

Пасту рыбную матуля
На хлеб выціскае.
Пpыглядаецца Ганyля
І маму пытае:
-І каму гэта рыхтуеш
Такую паскуду?
Пасту млосную зубную
Есці я не буду!

### ПАКЛІЧУ БАБУЛЮ

- Я на хвіліну выйду з хаты,-
Бабуля сказала.-
Папільнуй сястру Агату,
Каб яна не ўпала.

- Папільную я сястрыцу,-
Абяцае Уля.
- Калі ўпадзе, паклічу
Я цябе, бабуля!

### АДПАМПАВАЛАСЯ КОЛА

Заўсёды працавіты тата
Пасля зімы рыхтуе «фіата».
Працы пры ім надзвычай многа,
Каб мог быць спраўным у дарогу.
Паглыбіўся ў матору нетры -
А ў коле дык няма паветра!
-Татулька, глянь,- сказаў Мікола,-
Адпампавалася нам кола.

## ЧАГО Ў ЛЕСЕ НЕ ХАПАЛА

/казка/

Сядзіць барсучок на палянцы і плача горкімі слязамі. Бяжыць ліса, пытаецца:

-Чаго, барсучок, плачаш?

-Ой, бяда!- жаліцца той.- Забег воўк у наш куток, схапіў майго брацікa і зацягнуў у глухі яр.

-Прабач, барсучок, нічым памагчы не магу, да краўчыхі спяшаюся,- махнула ліса хвастом і знікла. Спыніўся каля барсучка дзік, рохкае:

-Чаго, бедалага, плачаш?

Выслухаў барсучка, іклы свае жоўтыя аб пень паваструў, кажа:

-Мог бы я з ваўком пагаварыць, але ж дзеці-парсючкі ў мяне малыя... Яшчэ што здарыцца. Так што выбачай, пабягу.

Выйшаў на палянку мядзведзь з калодай мёду. Кінуўся да яго барсучок:

-Дзядзька Міша, памажыце!

І расказаў пра сваю бяду.

Паставіў мядзведзь калоду на зямлю, пачасаў лапай за вухам дый кажа:

-Ну добра! Пагавару з ваўчыскам. Толькі пачакай, занясу мёд дахаты!

Узваліў калоду на плечы і пайшоў. А барсучок павесялеў, нават адзін раз падскокнуў ад радасці - брацікa выратуюць! Але час ідзе, а мядзведзя ўсё няма і няма. Кінуўся барсучок да мядзведжай бярлогі, глядзіць, а гаспадар храпе сабе, дзверы ў бярлогу калодай заваліўшы, каб ніхто не турбаваў яго дома.

-Усё!- прашаптаў няшчасны барсучок.- Канец майму брацікy...

Вярнуўся на палянку і зноў плача, свету белага ад слёз не бачыць. І тут бяжыць заяц. Крануўся лапкай барсучка, і той расказаў пра ўсё, бядуе:

-Няма ў лесе такой сілы, каб ваўка суняць! Калі мядзведзь не хоча звязвацца з гэтым валацугам, дык хто ж асмеліцца?

-Паслухай ты мяне, дружа!- кажа заяц.- Сілы ў іх хапае. І ў дзіка, і ў мядзведзя. А вось падумай, чаго не хапае... Не ведаеш? Тады паказвай, дзе той яр!

Здзівіўся барсучок, але плакаць перастаў і павёў зайца да воўчага яра.

-Ты, барсучок, схавайся пад куст,- вучыць заяц.- А як убачыш, што воўк уцякае, бегма бяжы да брацікa, вызваляй яго з няволі. Сустрэнемся каля старога дуба, што на ўзлеску расце.

Яшчэ болей здзівіўся барсучок, але палез хавацца ў куст.

А заяц выскачыў на поле, дзе паляўнічыя хадзілі. Убачылі тыя зайца і сабак нацкавалі. Зайцу гэта толькі і трэба было. Ляціць ён праз кусты проста да яра. А за ім - зграя сабак, паляўнічыя. Пачуў воўк шалёны брэх - і выскачыў з логава. Сабакі давай яго трапаць, кусаць. Крутнуўся воўк, даў цягу, а сабакі за ім далёка ў лес пабеглі. Выскачыў барсучок з-пад куста і заспяшаўся да брацікa. Вызваліў яго і прывёў да старога дуба. А там ужо заяц сядзіць, усміхаецца:

-Ну, барсучок, чаго ў лесе не хапала?

-Ой, цяпер ведаю! Не хапала адвагі, кемлівасці, дабраты. Сіла не галоўнае, я зразумеў...

Вось і жывуць дагэтуль тры вясёлыя сябры - два барсучкі і заяц.

АЛЕСЬ НАВАРЫЧ

## ЗЛАВІ ЗА ХВОСТ ДРАКОНА!

/кітайская дзіцячая гульня/

У гульні прымаюць удзел не менш дзесяці чалавек. Яны становяцца адзін за адным і кожны кладзе правую руку на плячо таго, хто стаіць наперадзе. Той, хто стаіць першым - галава дракона, апошні - яго хвост. Галава дракона спрабуе злавіць свой хвост. Ланцужок дзяцей, які не разрываецца, увесь час у руху - цела паслухмяна паварочваецца за галавой, а тыя ігракі, што каля хваста, перашкаджаюць яго лавіць. Калі ўсё ж галава схопіць за хвост, апошні ў шарэнзе ігрок ідзе наперад, становіцца галавой. А хвастом - ігрок, які быў у шарэнзе перадапошнім.

/В.Б./

# ЮР'Я

Ужо не першы дзень свеціць яркае сонца, стаіць добрае надвор'е... Ужо дзяўчаты гукалі-заклікалі вясну, якая нясе «на зямельку травіцу, на травіцу расіцу, на лясочак лісточак, на дзевачак вяночак». З кожным днём у земляроба прыбаўляецца клопатаў і працы. І вось свята Юр'я, прымеркаванае да 23 красавіка /па ст. ст./, да Ягорава /Юр'ева/ дня, які ў народзе лічыўся заступнікам жывёлы і гаспадаркі. У гэты дзень адбываўся першы выган хатняй жывёлы ў поле. Колькі ж тут селяніну трэба было ведаць і прадугледзець! Яшчэ ў хаце гаспадыня тройчы абыходзіла з хлебам вакол коміна, каб «скацінка так стаяла на месцы, як печ стаіць». Потым выконвалі шэраг абрадавых дзеянняў на двары: закрывалі замок, клалі яго каля брамы і выганялі жывёлу на вуліцу; ставілі поўнае вядро вады, каб так поўна было малака ў кароў; пры выгане коней клалі курынае яйка, каб яны былі гладкія і сытыя. Затым, памаліўшыся і ўзяўшы хлеб, соль, сала, яйкі, гаспадары гналі жывёлу ў агульны статак. Пастухі таксама маліліся, абыходзілі тры разы з хлебам вакол статка і пасля гэтага адпраўляліся ў поле. Там яны ладзілі святочны абед з абрадавымі стравамі. На Юр'я абыходзілі палі, прыносілі ніве ахвяры, каб быў шчодры ўраджай. Маладзіцы, што ўзімку выйшлі замуж, пакрывалі ніву палатном. Моладзь жа не прапускала выпадку павесяліцца. Хлопцы і дзяўчаты абыходзілі двары ў сваёй вёсцы з віншаваннямі і добрымі пажаданнямі гаспадарам. У кожнай дзяўчыны, акрамя таго, было яшчэ і тайнае жаданне, каб гэты абыход быў для яе апошнім і да наступнага свята выйсці замуж. Замужнія жанчыны сталага ўзросту, управіўшыся па гаспадарцы, на цэлы дзень ішлі ў лес, адпачывалі, спявалі, гатавалі абрадавую страву - яечню.

Юр'я - светлае веснавое свята. Пануе прыўзняты настрой, селянін верыць: ад таго, як правільна і своечасова ён выканае ўсе асвечаныя традыцыяй абрады, будзе залежаць шчодры ўраджай на яго ніве, плоднасць статка, дабрабыт сям'і.

ТАЦЦЯНА КУХАРЭНКА



*Цуд Юр'я аб змеі. 1729 г.*

# малюнкі школьнікаў



*Мышка Пік-Пік і котка Пепіта на конкурсе прыгажосці. Мал. К. Леанкевіч.*

# МАЙ

Невычэрпная маляўнічая палітра мая. Нават у хмарныя дні радуюць нас яркія фарбы вясны - шматколернасць разнатраўя, свежая зяленіна бярозы, квецень садоў...

Прыкладна ў сярэдзіне месяца зацвітае чаромха. Народны каляндар сведчыць: «Цвіце чаромха - холад прыносіць». З'яўленне яе кіпучай белай квецені звычайна супадае з надыходам апошніх халадоў. А вось бэз і рабіна любяць цяпло. Яны пачынаюць цвісці дзён на 8 пазней. У гэты ж час з'яўляюцца ў лесе снежна-белыя званочкі ландышаў.

Майская квецень буяе ў садах і агародах. Цвітуць чорныя і чырвоныя парэчкі, агрэст, чарэшні і вішні, крыху пазней - яблыні і грушы. Багатае цвіценне заўсёды прадказвае і шчодры ўраджай. Каб толькі не ўдарылі халады...

Сонца прыгравае ўсё мацней. У паветры мільгаюць матылькі, а вечарамі распачынаюць свае палёты хрушчы, надакучлівымі становяцца камары. Услед за камарамі з'яўляюцца ластаўкі і стрыжы.

Майскімі днямі на лясных і палявых сцежках можна сустрэць ласіху з цяляткамі, маленькіх зайчанят, вывадак качак, сям'ю дзікоў з парасяткамі. Май - месяц нараджэння жыцця.

Гэтыя дні - найбольш напружаныя для вяскоўцаў. Патрэбна закончыць усе работы ў полі, ды і на прысядзібных участках. У канцы месяца звычайна саджаюць агуркі /халадоў ужо больш не будзе/. А вось бульбу спяшаюцца пакласці ў зямлю ў першыя два тыдні. Па тым, які выдасца май, у народзе здаўна робяць прагнозы на лета. Калі на Макея /24/ мокра - то і ўсё лета такое. Калі на Сідара /27/ холадна - халодным будзе і лета. І яшчэ адна народная прыкмета: май халодны - год хлебародны

*Май зямлю саграває,*
*а сіверам патыхае.*
*У маі суха - падцягнеш папругу.*
*Мокры май - будзе жыта, як гай.*

Хахуля - вельмі цікавы, своеасаблівы звярок. Продкі хахулі жылі каля 30 мільёнаў гадоў таму назад разам з мамантамі і насарогамі. Але тыя вымерлі, а гэты звярок захаваўся да нашага часу. Хахуля - «сваячка» насякомаедных: вожыка, крата, землярыйкі. У яе прыгожае, густое бліскучае футра і вельмі шчыльны і мяккі падшэрстак. Спінка хахулі шэравата-бурая, брушка серабрыста-бялявае. Даўжыня цела да 22 сантыметраў, маса 450 грамаў. Выцягнутая галава заканчваецца рухомым хабатком. Вочкі беленькія і бачыць звярок дрэнна, а таму выцягнуты хабаток дзякуючы нюху і адчувальнасці іграе важную ролю ў яго жыцці. Усё жыццё хахулі звязана з вадою, таму невыпадкова гэтага звярка называюць яшчэ вадзяной землярыйкай. Звярок жыве ў азёрах, старых рэчышчах, рэках з добра развітай вадзяной расліннасцю. Робіць сабе нару, уваход у якую знаходзіцца пад вадой. Звычайна плавае каля днішча, рыецца ў глеі, вышукваючы п'явак, смаўжоў, лічынак, чарвякоў. Хахуля актыўная круглы год, вясной і восенню прыносіць ад двух да пяці дзяцінят. Маладыя звяркі ва ўзросце 4-5 месяцаў пакідаюць нару родзічаў і пачынаюць весці самастойнае жыццё. Хахуля - каштоўны пушны звярок, зараз амаль знішчаная, хаця яшчэ сотню гадоў таму была самым звычай-ным, распаўсю-джаным звярком у Беларусі. У апошні час яе двойчы завозілі з Хапёрскага запаведніка, натуральнага рэзервата, і выпускалі ў рэчышча Сожа і Пцічы. У невялікай колькасці звярок сустракаецца ў нізоўі ракі Пціч і ў пойме Прыпяці. Перад вучонымі стаіць задача - выявіць, дзе і ў якой колькасці яшчэ захавалася хахуля на тэрыторыі Беларусі.



А. КУРСКОЎ



# ВЯСЁЛЫ КУТОЧАК

x x x

Чатырохгадовы Міхаська, прачнуўшыся раніцай, паведаміў маме, што ў яго выхавацельніцы сёння дзень нараджэння.

-Ах, ах,- замітусілася мама.- Ці паспеем мы купіць кветкі? Што ж ты мне ўчора не сказаў пра гэта?

-А ўчора ў яе не было дня нараджэння,- растлумачыў Міхаська.

/Я.Ц./

ПАРТФЕЛЬ З ПЯЦЁРКАМІ

Бацька купіў сыну партфель і наказаў:

-Глядзі ж, сынок, каб ты кожны дзень прыносіў поўны партфель пяцёрак.

-А куды ж я пакладу падручнікі?..

НЕСУМНЕННА

-Колькі ў цябе двоек, Грыша?

-Тры.

-А ў мяне дзве. Значыць, я лепш вучуся!

-Гэта несумненна. Ты ж учора на кантрольнай па матэматыцы не быў!

ГРАМАТНАЯ РУЧКА

-Аксанка, дай мне сваёй ручкай папісаць!

-А хіба твая сапсаваная?

-Ды не, яна робіць шмат памылак!

/В.Б./



*У якога мячыка няма пары?*

А-Д-Г-А-Д-А-Н-К-А

 

## КАРОТКІ АБРЫС БЕЛАРУСКАГА ПЫТАННЯ

Падрыхтаваў Аляксандр Баршчэўскі

**З дакументаў Генеральнага штаба (II Аддзела), Варшава 1928.**

— 61 —

Рэзалюцыя аб персаніфікацыі галоўных улад Беларусі мела наступны змест:

„Прэзідыум Беларускай нацыянальна-палітычнай канферэнцыі ў Празе аб'яўляе на падставе пастаноў, прынятых усімі беларускімі партыямі і арганізацыямі, што адзіным правамоцным заканадаўчым органам на тэрыторыі Беларусі з'яўляецца Рада Беларускай Народнай Рэспублікі і яе прэзідыум на чале з Крэчэўскім.

Законна выбраным беларускім урадам з'яўляецца Рада міністраў на чале з В. Ластоўскім.

Аб рыжскім трактаце:

„Стоячы на грунце Універсала Рады Беларускай Народнай Рэспублікі ад 25.III.1918 г., абвяшчаючага незалежнасць Беларусі ў межах лічбовай перавагі беларускага народа, Беларуская нацыянальна-палітычная канферэнцыя, якая складаецца з прадстаўнікоў беларускіх партый і нацыянальных арганізацый, сабраных у Празе з усіх беларускіх акупаваных земляў, аднагалосна заяўляе:

1) Беларускі народ вёў, вядзе і будзе весці барацьбу за самастойнасць і незалежнасць Беларусі;

2) што ўсе папярэднія пратэсты палітычных і нацыянальных арганізацыяў, аб'яўленыя ў свой час супраць Рыжскага трактата, які падзяліў Беларусь паміж Польшчай і Расіяй, канферэнцыя аднагалосна падтрымлівае;

3) Беларуская нацыянальна-палітычная канферэнцыя ў Празе заклікае ўсе дзейсныя беларускія сілы да найбольш вырашаючай рэвалюцыйнай барацьбы ўсімі даступнымі сродкамі супроць падзелу Беларусі і наказвае трактаваць як ворага беларускага народа кожнага, хто прызнае Рыжскі мірны трактат".

У „рэзалюцыі" аб становішчы беларускага народа пад акупацыяй было сказана:

„Пад акупацыяй Польшчы знаходзіцца больш 100000 квадратных кіламетраў беларускай зямлі. На гэтай захопленай польскім імперыялізмам тэрыторыі гойсае ў дадзены час нічым не абмежаваны шавінізм, небывалы нацыянальны прыгнёт і здзекі над беларускім народам.

Палякі, для таго, каб падавіць беларускі незалежны рух, знішчаюць беларускую культуру і інтэлігенцыю, імкнуцца знявечыць на гэтых землях беларускае племя. Зямлю беларускіх уцекачоў польскі ўрад раздае жаўнерам, народжаным у Польшчы. Польскі ўрад гноіць у астрогах і канцэнтрацыйных лагерах свядомае беларускае сялянства, зачыняе культурныя, нацыянальныя і эканамічныя арганізацыі, не дапускае беларускай прэсы, школы і мовы. Беларуская нацыянальна-палітычная канферэнцыя ў імя справядлівасці і захавання беларускай нацыянальнасці ды культуры патрабуе ад Лігі нацый і ад усіх народаў свету, каб польскі нялюдскі імперыялізм быў адкінуты за Буг і Нарву" (пераклад з польскай мовы — А.Б.).

*( Працяг будзе )*

## КУХОННЫЯ ПЛЯЦЫ

### РЫС З РАЗЫНКАМІ

Прадукты: 150 г рысу, 1 1/3 шклянкі малака, 3 лыжкі масла, ванілін, соль, 100 г разынак, 3-4 жаўткі, 4 лыжкі масла, 6-8 лыжак цукровай пудры, кілішак лікёру.

Рыс спаласнуць у цёплай вадзе, адцадзіць, заліць вялікай колькасцю кіпячай вады, варыць 2 мінуты, адцадзіць, асушыць. Тады заліць гарачым малаком, дадаць спаласнутыя разынкі, масла, дробна нарэзаны ванілін і соль, перамяшаць, накрыць і варыць каля 20 мінут на невялікім агні. Масла расцерці з цукрам, дадаць па чарзе жаўткі, спалучыць іх з лікёрам і астуджаным рысам, пералажыць у формачку, спаласнутую халоднай вадой, выраўнаць паверхню і пакінуць, каб застыла. Перад падачай форму апусціць на некалькі секунд у гарачую ваду, выняць рыс на талерку.

### РЫС З ЯБЛЫКАМІ

Прадукты: 150 г рысу, шклянка малака, 5-6 яблыкаў, 1-2 жаўткі, 1,5 лыжкі масла, 5 лыжак цукровай пудры, ванілін, лімонны сок з 1 лімона, соль; для соусу: шклянка малака, 3-4 жаўткі, 6-8 лыжак цукровай пудры, 2 лыжкі масла, ванілін.

Рыс спаласнуць у цёплай вадзе, адцадзіць, заліць вялікай колькасцю гарачай вады, варыць 2 мінуты, адцадзіць. Тады заліць кіпячым малаком, перамяшаць, дадаць масла, дробна нарэзаны ванілін, пасаліць і варыць 20 мінут на малым агні пад пакрыўкай.

Соус. Малако закіпяціць з дробна нарэзаным ванілінам, працадзіць. Жаўткі расцерці з цукрам, уліваць паволі тонкім струменьчыкам гарачае малако, мяшаючы венічкам. Посуд з жаўткамі уставіць у большую каструльку з гарачай вадой і падаграваць, увесь час памешваючы, пакуль соус не стане густым. Трэба сачыць, каб вада ў посудзе не загатавалася. Калі соус будзе густы, зняць яго з агню, дадаючы па кавалку масла, перамяшаць з рысам.

Яблыкі памыць, абабраць, спаласнуць,перарэзаць напалавіну, выняць насенне, сцерці на гародніннай тарцы, спалучыць з жаўткамі, расцертымі з цукрам і лімонным сокам. Форму спаласнуць халоднай вадой, палажыць туды рыс, перакладаючы яго яблыкамі, выраўнаць паверхню і пакінуць, каб застыла. Перад падачай форму апусціць на некалькі секунд у гарачую ваду, выняць на талерку.

### РЫС ПА-АМЕРЫКАНСКУ

Прадукты: 150 г рысу, 1,5 шклянкі малака, 3 лыжкі масла, соль, ванілін, 200 г ананасаў з баначкі, 2/3 шклянкі салодкай смятанкі, 100 г цукровай пудры, 1-2 жаўткі, 20 г шакаладу ў парашку.

Рыс спаласнуць у цёплай вадзе, працадзіць, заліць вялікай колькасцю кіпетню, варыць 2 мінуты, адцадзіць, асушыць. Тады заліць гарачым малаком, перамяшаць, дадаць масла, соль і дробна нарэзаны ванілін, варыць каля 20 мінут. Зварыўшы, перамяшаць з шакаладам, палажыць у форму, спаласнуць халоднай вадой, выраўнаць зверху і пакінуць, каб рыс застыў. Пасля палажыць зверху ананасы, палажыць збітую смятанку, перамешаную з жаўткамі, расцертымі з цукрам. Перад падачай адкрыць бакі формачкі, пералажыць рыс на талерку.

**ГАСПАДЫНЯ**

## САРДЭЧНЫЯ ТАЙНЫ

**Мілае Сэрцайка!** Колькі я сустракала жанчын, усе найчасцей наракаюць на сваіх мужоў, што пасля гарэлкі яны - да нічога. У адной з такіх размоў я пазволіла сабе заўважыць, што і мой такі самы, бо як прыклеіцца /калі віп'е/ да мяне, дык адарвацца ад яго цяжка. Мае сяброўкі пачалі рагатаць. Растлумачылі мне, што іх мужы, як вып'юць, кабеты наогул не патрабуюць. А нават калі прабуюць мець з імі нешта супольнае, дык абсалютна нічога ў іх не выходзіць.

Я вельмі здзівілася. У нас у такой сітуацыі пачынаецца доўгае і гарачае каханне. Не кажу, што мне гэтыя мужавы пяшчоты не падабаюцца. Падабаюцца нават вельмі, але проста гэта трывае так доўга, што я ўжо не вытрымліваю. Мне прыемна, але фізічна не даю рады. Адначасова адчуваю прыемнасць і стомленасць. Цэлае шчасце, што такія сітуацыі здараюцца нячаста. Мой муж не п'яніца, але раз у месяц любіць выпіць у кампаніі. Зрэшты, ходзім мы амаль заўсёды ў госці разам. Тут у нас усё ў парадку.

Сэрцайка! Як ты думаеш, ці з маім мужам усё ў парадку? Бо так фактычна момантамі мне здаецца, што ён бы ўжо нават і хацеў хутчэй скончыць, сам мучыцца з гэтай прычыны, але не можа.

**Івонка**

Івонка! Ізноў жа - я не лекар. Але мы ўжо калісь на старонках «Нівы» вялі дыскусію на гэту тэму. Здаецца, тады агульнымі намаганнямі мы тут прыйшлі да вываду, што патэнцыю мужчын пасля ўжывання алкаголю можна падзяліць працэнтна: 70 працэнтаў да 30 працэнтаў. У 70-ці працэнтаў патэнцыя падае, у 30-ці - павышаецца. Так вырашалі прымаючыя ўдзел у дыскусіі. А як яно ёсць на самай справе? Думаю, што трэба было б сягнуць да медыцынскіх крыніц. Можа, чытаючыя нас лекары адгукнуцца?

У кожным разе магу табе, Івонка, сказаць адно. Калі ў вас усё ў парадку ў сексуальных справах, гэты адзін раз у месяц можна і пацярпець. Іншая б нават сказала: не думаў, ды прыйшлося! Колькі ж гэта кабет марыць, каб знайсці такога добрага каханка, які можа кахацца так доўга і палка. Мяркую, што ў тваіго мужа ўсё ж такі наступае правідловае заканчэнне палавога акту. Відаць, гарэлка ў яго выклікае толькі запавольванне выкідання насення.

Даражэнькая Івонка! Цярпі і дзякуй Богу, што не маеш дачынення з імпатэнтам. Было б яшчэ горш.

**СЭРЦАЙКА**

## ВЕР-НЕ-ВЕР

Мне за 60 год, я незамужняя. Жыву каля сястры. Мы толькі ўдваіх. Сястра малодшая, гаспадыня дому, мае двое жанатых дзяцей, якія жывуць у другім канцы горада. Адкажы, Астроне, на мой сон. Сніцца мне, што я стаю ў чыстым полі, незнаёмым мне. Дзень летні сонечны, на полі авёс яшчэ без коласа, у ім жоўта цвіце рапс, побач цвіце грэчка, далей луг з немалою травой, у траве каляровыя кветкі, прыгожы краявід і такое гэтае поле, шырокае аж да гарызонту. Стаіць у маім полі хатка, як бы куб усяк у два метры, яна з цёмных дошак. Мы з сястрой ведаем, хоць сястры ў тым полі няма, што ў той хатцы жывуць тры браты. Бачу: выйшаў з хаткі мужчына гадоў 50 ў капелюшы і ў абшырным плашчы прыгожага выгляду і кудысьці пайшоў. Як бы праз акно бачу, што ў хатцы стаіць вялікі з дошак голы стол, на які схіліўся другі брат гадоў 70, марнага выгляду. У другім канцы стала сядзіць трэці брат гадоў 30. Я астатняга мала бачу, вопратка на гэтых двух якаясь рабочая. Я і мая сястра ведаем, што мая сястра мае абавязак заплаціць гэтым братам вялікую суму грошай, колькі - не ведаем. Не ведаем таксама, ці доўг гэта, ці падарунак. Урэшце бачым, што браты гэтыя нам незнаёмыя. Чакаем адказу.

**Параска і Тацццяна**

Шаноўныя Параска і Тацццяна! Сон ваш сапраўды нялёгка адгадаць. Было вам, здаецца, някепска - бо сонечна было, і поле, і трава высокая, а ў ёй кветкі і цвітучы авёс, і грэчка. І спадзяваліся вы, што будзеце мець поспехі вялікія ў справах. Але... каб не тыя тры браты. Мяркую, што атрымаеце ілжывыя весткі наконт поспеху ў справах. Усё будзе не так ружова.

**Астрон**

## Ц ВЕДАЕЦЕ, ШТО?..

* * *

У кожнай тоне марской вады знаходзіцца каля 50 міліграмаў золата. Калі б падзяліць усё золата, якое знаходзіцца ў морах ды акіянах, паміж людзьмі Зямлі, дык кожны з нас атрымаў бы каля 30 тон гэтага дарагога металу.

* * *

Штучныя вочы выраблялі ўжо ў XVI стагоддзі. Малявалі іх на керамічных плітках, якія трымалі ў пустым воку пры дапамозе спружынкі. Штучнае вока мог купіць толькі багаты чалавек, каштавалі яны надта дорага.

* * *

Самым багатым чалавекам свету быў валадар старажытнай Асірыі, які памёр у 628 годзе да нашай эры. Пасля яго смерці скарб складаўся з 5 мільёнаў талентаў золата. У пералічэнні на нашу вартасць гэта 1556 мільярдаў долараў.

*Выбраў*
*і да друку падрыхтаваў*
**ЯСЕНЬ**

# Гасцінец

На днях з'явіліся сігнальныя экземпляры „Гасцінца" —двухмоўнай анталогіі паэзіі і прозы членаў Беларускага літаратурнага аб'яднання „Белавежа". Кніжку, якая рыхтавалася амаль дзевяць гадоў, выдала беластоцкае Аддзяленне Краёвага выдавецкага агенцтва (КАВ). У анталогіі змешчаны арыгінальныя творы і іх польскія пераклады дваццаці пяці „белавежцаў". Уступ напісаў Фларыян Няўважны.

Кніжку напэўна будзе можна купіць у фірменнай кнігарні КАВ „Лабірынт" у Беластоку, вул. Варшаўская 79.

 

# АНЕКДОТЫ

— Праўда, у гэтым капялюшыку я памаладзела на дзесяць год?
— А колькі вам год?
— У капялюшу ці без яго?

* * *

Перад пачаткам сеанса ў кінатэатры адзін мужчына пытае ў свайго суседа:
— Чаму гэта гледачоў мала?
— Прычына простая, — тлумачыць той, — да шаснаццаці год глядзець фільм нельга, а пасля шаснаццатага — ўжо не цікава.

* * *

Спыталіся ў гультая:
— Які дзень у гэтым годзе самы кароткі?
— Выхадны, — адказаў той, уздыхнуўшы.

* * *

— Гэта непарадак! Навошта вы мне такія кароткія штаны пашылі?
— Супакойцеся, калі ласка. Я шыў па мерцы, але хто ж тут вінаваты, што за гэтыя два гады вы падраслі?

* * *

Сустрэліся юнак з дзяўчынай вечарам у парку.
— Ты маё сонейка, месячык мой, зорачка мая!..
Усміхнулася дзяўчына і запытала:
— Гэта што, прызнанне ў каханні ці ўрок па астраноміі?

* * *

Сустрэліся Юрка з Кастусём.
— Што ты цяпер робіш? — пытае адзін другога.
— Пішу мемуары.
— Справа добрая. А ты ўжо дайшоў да таго месца, калі я табе пазычыў сто тысяч злотых?

Падборку зрабіла

А. ПРАЛЕСКА.

# НІЎКА

Мал. М. Матоха („Карузеля”).

## ШКОДНЫЯ І КАНСЕРВАТЫЎНЫЯ КАЗКІ

### Казка 2 Тамашок Пальчык

Даўно таму, калі яшчэ пан Крапіўніцкі быў членам Саюза сацыялістычнай моладзі, пан Цэлінскі — Саюза польскіх студэнтаў, а астатнія — Саюза вясковай моладзі, тады, калі пан Мачульскі прымушаны быў працаваць у тыднёвіку „Сталіца”, якім кіраваў вядомы разбойнік Мочар, і ў выдавецтве Міністэрства нацыянальнай абароны, якое падлягала страшнаму чараўніку Ярузельскаму, калі Яраслаў і Лех Качынскія былі прымушаны выконваць ролі ў польскамоўных, але чужых па духу кінафільмах, а потым абараніць доктарскія дысертацыі ў рэжымных універсітэтатх — прыйшлі тады вельмі цяжкія часы для ўсіх дзяцей і моладзі. Найгорш меліся рабочыя і сялянскія дзеці. Ім нават прызналі спецыяльныя „пункты за паходжанне”. Быў гэта нялюдскі метад прымушаць хлопцаў і дзяўчат да навукі. У школах і вышэйшых навучальных установах навука давалася бясплатна, а ў некаторыя школы трэба было хадзіць абавязкова. Нядобрыя людзі падкуплялі моладзь пры дапамозе так званых „фундаваных стыпендый”. Той, хто карыстаўся такой стыпендыяй, браў грошы на навуку з фабрыкі, а пасля, калі закончыў вучобу, тады яго цап — і адразу бяруць на работу, даюць службовую кватэру ды іншымі спосабамі пазбаўляюць свабоды. Жыў тады яшчэ сумленны і мудры хлопчык, якога звалі Тамашок Пальчык і які не даўся спакусіцца перспектывай адукацыі. Калі захацець — дык заўсёды можна. Але як не хочацца, а мусова?..

ЮЛІЮС („Карузеля”)

# РЫБАКІ

(Байка)

Пяро сатырыка-паэта —
Мацней за бомбы і ракеты:
Не ўбівае, не страляе:
Шлях народам асвятляе.
А вось майму, сябры, герою
Хоць асвятляй — не асвятляй,
Заняты думаю адною:
Набіць кішэні цераз край,
Зрабіць занятак больш выгодным
І стаць піжонам самым модным.
Неяк дазнаўшыся ў народзе,
Што свая Ледзі ўжо не ў модзе,
Таму з сабою на рыбалку,
Браў суседаву Наталку,
А поплеч з імі, каля ног,
Лашчыўся цыбаты дог...
Вёз сусед іх не на возе,
А на ўласнай чорнай „Волзе”
І ад шчасця сам не ведаў,
Куды ён з суседкай ехаў.
Ды, як на гора, як на дзіва
Павярнуў з дарогі крыва,
Тэлефонны збіўшы слуп,
Рэзнуўся ў магутны дуб —
У машыне руль зламіўся,
Бак з бензінам разваліўся,
Колы лопнулі і — селі
Рыбакі нашы на мелі,
Толькі дог, як на пярыне,
Спаў на ломанай машыне.
— — — — — — — — — — — — — — — —
Догу там найлепш жывецца,
Дзе ўсё ломіцца і гнецца.

АЛЯКСАНДРА ЕЛІСЕЕНКА

# НЕ ХАПІЛА СІЛ

Памірае стары Рабіновіч. Каля яго сабраліся родзічы і блізкія і ўсе настойліва просяць:
- Скажы, дарагі, дзе ты закапаў скарб?
Хворы, сабраўшы апошнія сілы, падняў руку і паказаў два пальцы - указальны і сярэдні. Але неўзабаве з дапамогай лекараў хворы паправіўся. З гэтай нагоды ён запрасіў да сябе ў госці родзічаў і блізкіх. Калі выпілі і закусілі, адзін з прысутных і пытаецца:
- А што азначалі тыя два пальцы, якія вы паказалі, калі мы прасілі наконт вашага скарбу?
- Проста ў мяне тады не хапіла сіл праз тыя пальцы прасунуць трэці.

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ”

* Выратавацца ад эканамічнай катастрофы
* Размова з Нінай Мацяш.
* Будзе „новы” ліцэй – заяўляе Яўген Сачко.
* Курс настаўнікаў у Суляюўку.
* Піражкі з макам.

# РАЗЕТКА НА „А”

**Управа:** 1) жаданне рабіць або задаволіць, 2) мужчынская статуя каля сцяны або калона, якая падтрымлівае верх будынка, 3) частка свету, дзе найбольш неграў, 4) воўчы можа мець і чалавек, 5) спецыяльны прыбор, прылада, 6) гара ў Турцыі, але сімвал Арменіі, 7) добры прамоўца, 8) апытальны ліст.

**Улева:** 1) адтэрміноўка больш звычайна, 2) навучанне, адукацыя, школьніцтва, 3) грошы за нешта, 4) будыніна на вясковым панадворку, 5) мае кажух, але яго не шыла і не купіла, 6) ой, і нарабілася ў машыне, 7) на чале казакоў, 8) ахвотнік або любіцель.

„Ядань”

8 1 2 3 4 5 6 7

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на касяк з н-ра 12. Управа:** цэлафан, цацарка, цукар, ціпка. **Улева:** цэзій, цацанка, Цуканаў, цацка.

Кніжную ўзнагароду атрымаў **Аляксандр Дабчынскі** з Беластока.

Ніва

„Niwa”, ul. Suraska 1, 15—950 Białystok, skr. poczt. 149, tel. 210—33
Druk: „ORTHDRUK”, Białystok, ul. Antoniuk Fabryczny 13.

Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.

Рэдагуе калектыў:
Мікола Ваўранюк, Віталь Луба (в.а. галоўнага рэдактара), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Ян Максімюк, Яўгенія Палоцкая (кіраўнік канцылярыі), Уладзіслаў Пятрук (мастак), Галіна Раманюк і Марыя Федарук (машыністкі), Ада Чачуга (адказны сакратар).

Prenumerata.
1. Termin wpłat na prenumeratę na III kwartał upływa 20 maja 1992 r.
2. Cena prenumeraty kwartalnej wynosi 26 000 zł.
3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje Zakład Kolportażu Prasy i Wydawnictw, Warszawa, ul. Towarowa 28.
Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044—1195—139—11.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie rownież prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.